● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

6 чэрвеня 1996 г. чацвер, № 141 (22944)



# ЗВЯЗДА

*РОЗГАЛАС*

### С.ШАРЭЦКІ СУСТРЭЎСЯ З ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАМ БЕЛАРУСІ

Адбылася рабочая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгірам і Старшынёй Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімірам Ганчарыкам. Былі абмеркаваны становішча ў эканоміцы і палітычная сітуацыя ў рэспубліцы.

БЕЛТА.

*МАЛАДЗЕЧНА-96*

### АДКРЫЕМ СПАДЧЫНУ НАНОЎ

**Тыдзень застаецца да таго дня, калі Маладзечна зноў сустрэне фестываль беларускай песні і паэзіі. Дзіця, народжанае чатыры гады таму назад, вартаецца дадому. Добра, што пра яго яшчэ ёсць каму паклапаціцца і беларуская песня не застаецца сіратой сярод сваіх людзей. «Звязда» з'яўляецца адным з сузаснавальнікаў гэтага фестывалю.**

Адкрыццё чацвёртага фестывалю беларускай песні і паэзіі па традыцыі пройдзе ў Мінску. 6 чэрвеня ў прамым эфіры на тэлебачанні адбудзецца першы канцэрт з сёлетняй «маладзечанскай серыі». Сёння прагучыць лепшыя песні Ігара Лучанка на вершы беларускіх паэтаў-класікаў у выкананні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра і яго салістаў. Першая сустрэча павінна задаць тон іншым фестывальным канцэртам, якія нагадаюць пра лірызм і шчырасць роднага слова. Таму не забудзьце ўключыць тэлевізар!

Ларыса ЦІМОШЫК.



*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

### ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА: СВАБОДНЫХ МЕСЦАЎ НЯМА

**Дамінуючай тэмай пленарнага пасяджэння сесіі Вярхоўнага Савета ўчора папярэдняму заставаліся давыбары двух членаў Прэзідыума. Як вядома, 31 мая і 4 чэрвеня парламентарыі паспелі толькі вылучыць кандыдатуры на гэтыя пасады і паслухаць іх выступленні. Дарэчы, двое з сямі кандыдатаў узялі самаадвод: Анатоль Малафееў і Вячаслаў Кебіч.**

Такім чынам, рэйтынгавае галасаванне, якое павінна было вызначыць двух лідэраў, праводзілася толькі па пяці кандыдатурах: В. Саковіч, С. Домаша, М. Грыба, Л. Сечкі і І. Цярэшкі. У выніку найбольшай падтрымкай заручыліся першыя два дэпутаты, якія атрымалі адпаведна 80 і 82 галасы. Аднак тайнае электроннае галасаванне аказалася паспяховым толькі для Сямёна Домаша: за яго кандыдатуру прагаласавала 111 дэпутатаў. Васілю Саковічу не хапіла двух галасоў, каб стаць членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Нягледзячы на такі вынік, парламент у цэлым быў настроены на тое, каб усё ж закончыць справу канчатковага фарміравання кіруючага органа, а не адкладваць яе на потым, як прапаноўвалі асобныя выбраннікі. Таму ў зале пачалося паўторнае вылучэнне кандыдатаў. У выніку было вылучана 10 чалавек: Грыб, Саковіч, Цярэшка, Бялоў, Ягораў, Шчукін, Кебіч, Башарымаў, Краўчанка, Ганчар. Чатыры апошнія дэпутаты на розных прычынах знялі свае кандыдатуры. Рэйтынгавае галасаванне зноў вызначыла найбольшую папулярнасць старшыні Кантрольнай палаты Васіля Саковіча. А падчас тайнага галасавання адносна выбрання яго членам Прэзідыума за гэта выказалася 110 чалавек. Гэтым была пастаўлена кропка ў працэсе фарміравання кіруючага органа парламента. Нагадаю, што зараз ён складаецца з 9 чалавек: С. Шарэцкага, В. Новікава, Г. Карпенкі, Ю. Малумава, С. Калякіна, М. Гіруця, У. Канаплёва і двух новавыбраных дэпутатаў.

Пасля парламент распрабаваў «здаць» яшчэ адзін «хвост»: на абмеркаванне былі пастаўлены прапановы змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь». 31 мая законапраект быў прызнаны даволі сырым і таму адпраўлены ў камісію на дапрацоўку.

Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

## АБ'ЯДНАЦЬ НАМАГАННІ ДЛЯ СТВАРЭННЯ ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

**Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкага на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання 4 чэрвеня 1996 года**

Паважаныя калегі! Перш чым распачаць выбары новых членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, я хацеў бы папрасіць вашага дазволу выказаць свае меркаванні па шэрагу пытанняў далейшай работы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Думаю, што гэта зрабіць больш зручна мне за трыбунай.

Засталося літаральна некалькі дзён, калі споўніцца пяць месяцаў з дня пачатку работы Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання. І гэты час, на наш погляд, не прайшоў марна. Мы пазналі адзін аднаго, паспрабавалі сябе на адной з самых складаных функцый Вярхоўнага Савета — разгледзелі і прынялі бюджэт. Прынялі шэраг законаў, якія на першы погляд здаюцца другараднымі, але на самай справе важныя, а часам і не цярпяць адкладу. Але, бадай, самым важным у нашай рабоце было тое, што, будучы палітычным органам і таму не адыходзячы ад палітыкі, Вярхоўны Савет нашага склікання ўсё ж не ўдарыўся ў палітыканства.

Сёння я хачу падзякаваць кіраўнікам фракцый, старшыням пастаянных камісій, усім дэпутатам за тое, што, выказваючы свае думкі, якія часам супярэчылі адна адной, вы не даводзілі іх да крайнасці і ў большасці выпадкаў спрабавалі зразумець меркаванне іншых. Толькі дзякуючы вашай узважанасці і мудрасці ў рабоце прыярытэт аддаваўся стварэнню, а не разбурэнню.

Зразумела, кожны з вас у гэты перыяд пазнаму ставіўся і ацэньваў асабіста маю работу. Але паверце маёй шчырасці, што я імкнуўся супрацоўнічаць з кожным з вас, бо на працягу ўсяго жыцця маім крэда з'яўляецца тое, што кіраўнік таксама мае права на памылку, але ён не мае права на крыўду, тым больш злапамятлівасць на тых, хто з ім працуе.

Як стаючае ў нашай рабоце хацеў бы адзначыць тое, што Вярхоўны Савет спрабаваў у гэты перыяд зрабіць усё магчымае, каб знайсці агульную мову з выканаўчай уладай, і ў першую чаргу з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Нацэльваючы на гэта, Прэзідыум Вярхоўнага Савета кіраваўся трыма акалічнасцямі.

Першая. Тым, што Прэзідэнт выбраны народам і ў час сваёй перадвыбарнай кампаніі неаднаразова заяўляў аб тым, што ў сваёй рабоце ён будзе рабіць усё для таго, каб вывесці краіну з крызісу і стабілізаваць абстаноўку ў грамадстве. Галасуючы за кандыдатуру Прэзідэнта, народ верыў яму. І таму Прэзідыум Вярхоўнага Савета лічыў неабходным даць яму ўсё тое, што ён прасіў для выканання сваіх абяцанняў.

Другая. Прэзідыум улічваў і тое, што на працягу некалькіх месяцаў Вярхоўны Савет дванаццатага склікання працягваў функцыянаваць, але фактычна ўжо не працаваў. За гэты час паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі назбіралася вельмі шмат «завалаў», для расчысткі якіх патрэбна ўзаемаразуменне з абодвух бакоў.

Трэцяя. Выбраны воляй народа Прэзідэнт з'яўляецца і па ўзросту, і па вопыту вельмі маладым палітыкам для свайго ўзроўню, аб чым ён і сам неаднаразова заяўляў. Таму ў яго дзеяннях, а яшчэ больш у заявах шмат гарачнасці, недаверу да іншых, імкнення ўсё падпарадкаваць сабе, пераацэнкі сваіх магчымасцей. Прэзідыум Вярхоўнага Савета шчыра імкнуўся дапамагчы пазбавіцца яму гэтых недахопаў. Мы спрабавалі ўзяць на сябе пэўную частку ношы і разам з ім выцягваць краіну з таго крызісу, у які яна трапіла ў выніку банкруцтва сістэмы таталітарнага сацыялізму і які ўзмацніўся негатыўнымі наступствамі выбуху на Чарнобыльскай АЭС, а пазней распадам Савецкага Саюза.

Гаворачы пра шляхі канструктыўнага супрацоўніцтва паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі, на наш погляд, трэба яшчэ раз зрабіць спробу знайсці шляхі ўзаемадзеяння паміж дзвюма названымі галінамі ўлады пры пошуку адказу на самае галоўнае пытанне: якую мадэль грамадства мы хочам мець у выніку ажыццяўлення рэформаў?

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*ПОГЛЯД*

## ПАРЛАМЕНТ ПРЫМУШАЕ СЯБЕ ПАВАЖАЦЬ

**Выступленне Сямёна Шарэцкага на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 4 чэрвеня, якое паспрабаваў асвятліць у ім падыходы парламента і свае асабіста да існуючых у нашай краіне праблем, а таксама да адносін з выканаўчай уладай, многія назіральнікі палічылі сапраўды сенсацыйным. Такога вострага публічнага выступлення ў адносінах да выканаўчай галіны ўлады з боку кіраўніка цяперашняга Вярхоўнага Савета практычна яшчэ не было. Хаця людзі, набліжаныя да Сямёна Шарэцкага, сцвярджаюць, што такія праблемы ён ужо неаднаразова уздымаў, і ў першую чаргу ў размовах з Прэзідэнтам. Пазаўчора Старшыня Вярхоўнага Савета выказаўся адносна існуючых супярэчнасцей з выканаўчай уладай на ўвесь голас. І гэты яго ўчынак многія дэпутаты ацанілі высока, назваўшы яго «сапраўды мужчынскім».**

Што ж стала прычынай такой вострай прамовы кіраўніка заканадаўчай галіны ўлады, прычым зробленай у адсутнасці асноўнага аб'екта крытыкі, А.Лукашэнкі, які знаходзіцца на адпачынку ў Сочы?

Па-першае, у гэты час надзвычай вострa заявіў аб сабе эканамічны крызіс: спыняе работу МАЗ, на грані гэтага ж знаходзіцца МТЗ, запазычанасць па зарплаце складае сотні мільярдаў рублёў, да 172 тысяч вырасла колькасць беспрацоўных у нашай краіне. Між тым, паводле слоў старшыні Савета Федэрацыі прафсаюзаў Уладзіміра Ганчарыка, Расія не пацвердзіла так званы «нулявы варыянт» па ўзаемаразліках даўгоў, а тым часам наша запазычанасць за энерганосьбіты імкліва расце. Вялікія праблемы выклікае ў эканомікі цвёрды курс долара, што ўжо негатыўна адбілася на нашых экспарцёрах. Акрамя гэтага ў выніку такога нерэальна стабільнага курса беларускіх грошай сельскагаспадарчым прадпрыемствам стала немагчыма купіць валюту для закупак фуражу для нашых буйных жывёлагадоўчых комплексаў, і, як паведаміў у Вярхоўны Савет міністр сельскай гаспадаркі Лявоны, фуражу там застанецца на тры—пяць дзён. Трэба прымаць ужо экстранныя меры ў эканоміцы, і гэта выклікае асаблівую занепакоенасць Сямёна Шарэцкага.

Акрамя таго, апошнім часам выканаўчая ўлада зрабіла некалькі крокаў, якія вядуць да ўзмацнення адміністрацыйных мераў кіравання эканомікай, у больш жорсткія ўмовы пастаўлены айчынны бізнес, гэта ўсё ў цэлым выглядае як адступленне ад курса на фарміраванне свабоднай рыначнай эканомікі, што, натуральна, адбівае ахвоту ўкладваць грошы ў нашу эканоміку ў патэнцыяльных інвестараў. Пры гэтым Сямён Шарэцкі падкрэсліваe ў сваёй прамове, што ён не бачыць іншага шляху развіцця нашай краіны, які вывеў бы яе з крызісу, акрамя рыначнага.

Па-другое, гэтай вясною надзвычай абвастрыўся ўнутраны палітычны крызіс, а антыўрадавыя выступленні мінскай моладзі праваахоўныя органы спрабавалі прыпыніць сілай. Апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення парламентарыяў, стаў падзеі 30 мая ў Мінску, калі спецназ і міліцыя сілай разагналі пікетчыкаў, што стаялі на тратуарах праспекта Скарыны. Парламент, як вядома, вырашыў стварыць сваю камісію, якая разабралася б з гэтымі падзеямі. А Сямён Шарэцкі ў сваёй пазачарговай прамове яшчэ раз падкрэсліў неабходнасць прытрымлівацца прынцыпаў плюралізму і канстытуцыйнасці.

Па-трэцяе, на ўчынку Сямёна Шарэцкага відавочны і асабістыя матывы: ён толькі што вярнуўся з Амерыкі, з краіны, дзе жывуць па іншых стандартах, дзе кангрэс з'яўляецца ці не самым галоўным інстытутам дзяржаўнай улады, над

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*ВЫРАТАВАННЕ*

## ДЗЯКУЮЧЫ ПАДТРЫМЦЫ НЯМЕЦКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ




**«Звязда» ўжо паведаміла чытачам пра рэдакцыйную сустрэчу, удзел у якой прынялі Генадзь Грушавы і госці з Германіі — журналісты аднаго з самых масавых выданняў «Leipziger Volkszeitung» Томас Маер і Філіп Вількe.**

Не будзе памылкай заўважыць, што нашы нямецкія калегі выпадкова даведаліся пра акцыю «Выратаванне». Але іх візіт на Беларусь таксама быў звязаны з дабрачыннай дзейнасцю. Нямецкія журналісты прывезлі дапамогу па лініі ЮНІСЕФ аднаму з дзіцячых дамоў беларускай сталіцы. А ў фонд жа прыйшлі з жаданнем перадаць 1000 дойчмарак. Як размеркаваць сродкі? Адказ на пытанне быў дадзены імгненна, як толькі немцы даведаліся пра невядомую ім дагэтуль акцыю «Выратаванне». Вырашылі — па 2 мільёны беларускіх рублёў перадаць тым сем'ям, якія, відавочна, знаходзяцца ў найболей складаным становішчы. Мяркуйце самі. Вось што піша з вёскі Крайск Лагойскага раёна інвалід II групы, маці чатырох дзяцей Валянціна Сяргееўна Шыла: «Дзеці ў мяне не інваліды, вучацца ў школе (2, 4, 9, 11 кл.), прытым меншыя — на «выдатна» і «добра». Думаю, што здаровых дзяцей зараз няма, хвараюць і мае. Асабліва часта хварэе меншая дачушка. Нядаўна ляжала ў бальніцы, знайшлі лімфавузлы, малакроўе, павышаны ціск. Пры выпісцы сказалі, што патрэбны вітаміны і гематаген. Выпісалі рэцэпты на лекі, якія я не змагла купіць, бо атрымліваю 200 тысяч рублёў пенсіі. Часам няма за што купіць хлеба. Лічу, што малакроўе ў маіх дзетак ад непаўнацэннага харчавання. Але ж я невінаватая, што зарплату мужу, які працуе ў калгасе, не даюць пяты месяц. Дапамогу на дзяцей, прызначаную па месцы работы мужа, не выплачваюць болей як паўгода. Куды я толькі не звярталася за падтрымкай — у сельсавет, у школу, у раён. Адказ адзін — няма грошай!

Адзіныя, хто не адмаўляе ў падтрымцы, — гэта таварыства інвалідаў. Але што яны могуць, калі ўзносы там мізэрныя. Вось і абрадавалася я, калі ўбачыла ў газеце ваш адрас. Мае дзеці і так шмат у чым абдзеленыя. Не змаглі мы купіць тэлевізар, магнітафон. Няма ў нас нават радыё. Не ведаю, ці змагу выпісаць і сваю газету «Звязда».

Як крыўдна чуць у адказ на просьбу аб дапамозе параду аддаць дзяцей у інтэрнат. Мой муж — сірата, выхоўваўся ў інтэрнаце, ён ведае, што там «не мёд». Я б можа вам і не пісала, каб не трывога за здароўе дачушкі. Не, я не прашу адправіць яе за мяжу. Прашу толькі грошай на лекі і вітаміны. Ды і вельмі боязна адпраўляць, бо яна нават у бальніцу не лягала адна, была са мной.

І яшчэ адна бяда. Мае старэйшыя дзеці заканчваюць вучобу ў школе, хочуць ехаць вучыцца далей. Як апрануць і абуць іх па-людску? Дапамажыце, чым зможаце, вельмі прашу...»

(Заканчэнне на 7-й стар.)

# АБ'ЯДНАЦЬ НАМАГАННІ ДЛЯ СТВАРЭННЯ ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

У гэтай сувязі на нарадзе з удзелам Старшыні Вярхоўнага Савета, яго намеснікаў, а таксама старшынь пастаянных камісій эканамічнага профілю і па міжнародных справах вырашана яшчэ раз звярнуцца да выказанай мной ідэі: для вырашэння ўказанай праблемы аб'яднаць пад кіраўніцтвам Прэзідэнта намаганні Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, вучоных і вопытных вытворцаў.

Пры гэтым хачу нагадаць, што з такой прапановай я выходзіў да Прэзідэнта яшчэ ў пачатку сваёй работы ў якасці Старшыні Вярхоўнага Савета. У той час я атрымаў ад яго «дабро». Абмяркоўваў я гэтае пытанне і з асобнымі прадстаўнікамі Кабінета Міністраў, кіраўніцтвам Акадэміі навук, некаторымі кіраўнікамі вытворчасці. Усе яны таксама паставіліся да гэтай ідэі станоўча.

Сёння з гэтай высокай трыбуны я яшчэ раз звяртаюся да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўніцтва Кабінета Міністраў і Нацыянальнага банка, кіраўнікоў іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, вучоных рэспублікі і вопытных практыкаў, а таксама да прадстаўнікоў міжнародных эканамічных і фінансавых арганізацый, вучоных іншых краін, якія маюць у гэтым плане багаты вопыт, прыняць удзел у гэтай такой неабходнай для нашай рэспублікі рабоце.

Я хачу таксама звярнуцца да кіраўніцтва ўсіх палітычных партый і рухаў незалежна ад іх ідэалогіі прыняць самы актыўны ўдзел у гэтай рабоце, бо ўсіх нас аб'ядноўвае трывога за лёс нашай адзінай Радзімы — Рэспублікі Беларусь. Таму давайце сядзем за адзін стол і ў канструктыўнай палеміцы пастараемся хутчэй знайсці аптымальнае рашэнне гэтай глабальнай праблемы.

Узаемных кансультацый усіх палітычных сіл патрабуе і палітычная абстаноўка, што абвастрылася ў апошні час у грамадстве. Прэзідыум Вярхоўнага Савета асабліва непакоіць тое, што ў канфрантацыю з уладамі ўступае значная частка моладзі. У Прэзідыума Вярхоўнага Савета ёсць прапанова: літаральна ў бліжэйшы час правесці пасяджэнне «круглага стала», на якое запрасіць прадстаўнікоў усіх палітычных і грамадскіх арганізацый, прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, Кабінета Міністраў, Генеральнага пракурора, міністра юстыцыі, а таксама міністраў сілавых міністэрстваў.

Нам трэба перастаць бачыць ворагаў у іншадумцах, а навучыцца іх слухаць. Пры гэтым я далёкі ад той думкі, што пры навядзенні парадку не трэба звяртацца іншы раз да сілавых метадаў. Трэба, але сіла неабходна толькі для ўтаймавання небяспечных людзей, а не для тых, хто супраць нечага выступае ці нечым абураецца, тым больш што для абурэння ў нас прычын больш чым дастаткова.

У сераду, г. зн. заўтра, у 10 гадзін раніцы сустрэнемся я, прэм'ер-міністр, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта і старшыня Савета Федэрацыі прафсаюзаў. Мы паспрабуем яшчэ раз абмеркаваць становішча, што складваецца ў эканоміцы, і палітычную абстаноўку ў рэспубліцы. А пасля завяршэння работы ўжо створанай і ствараемай часовай камісіі Вярхоўнага Савета запросім у Вярхоўны Савет міністра ўнутраных спраў. Заўважу, што ўчора ў размове ён сам праявіў у гэтым плане ініцыятыву. Думаецца, што не лішнім будзе запрасіць на даклад камісіі і Генеральнага пракурора. Калі ж у бліжэйшы час ад Прэзідэнта і Кабінета Міністраў не будзе атрымана станоўчага адказу на прапанову аб сумеснай рабоце над канцэпцыяй развіцця грамадства, дык, вядома ж, Вярхоўны Савет вымушаны будзе ўзяць ініцыятыву распрацоўкі шляхоў выхаду эканомікі з крызісу і канцэпцыі руху нашага грамадства ў цэлым у свае рукі. Гэтага ад нас патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, у якой у ліку іншых асноўных функцый Вярхоўнага Савета значыцца і вызначэнне асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, Вярхоўны Савет трынаццатага склікання да выканання гэтай работы ўжо, на наш погляд, гатовы, чаго нельга было сказаць нават месяц таму назад. І калі б мы ўзяліся за гэтую справу тады, на што падштурхоўвалі Вярхоўны Савет некаторыя дэпутаты, мы наўрад ці з ім справіліся б. І зусім іншая справа цяпер, калі дэпутаты набылі ўжо пэўны вопыт заканатворчай работы, пастаянныя камісіі эканамічнага профілю маюць ужо некаторыя напрацоўкі па вывадзе эканомікі з крызісу і выйшлі на сесію Вярхоўнага Савета з праектамі многіх эканамічных законаў.

Што ж датычыцца асабіста маіх поглядаў на гэтую праблему, дык я ўжо неаднаразова выказваў іх у друку. Я не бачу іншага шляху развіцця нашай рэспублікі, які б вывеў яе з крызісу, акрамя як стварэння рыначнай, але разам з тым сацыяльна накіраванай эканомікі, якая базіруецца на разумным спалучэнні дзяржаўнай і прыватнай формаў уласнасці, свабоды прадпрымальніцтва і сацыяльнай абароны людзей з боку дзяржавы. Прычым адцягванне рэформаў толькі пагаршае крызіс.

Напрыклад, у сельскай гаспадарцы два гады таму назад было безнадзейных гаспадарак толькі дваццаць. Цяпер іх ужо пяцьсот. А вось свежы факт. Сёння прыйшла тэлеграма ад міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь, дзе ён настойліва просіць прыняць экстранныя меры для магчымасці канвертацыі грашовых сродкаў на закупку збожжа, азотна-фосфарных угнаенняў. У адваротным выпадку ўжо літаральна праз два дні можа пачацца падзеж свіней ад бяскорміцы. Такая ж тэлеграма дадзена (паколькі я з ім абмяркоўваў гэтае пытанне і па тэлефоне) і на імя прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

Я не бачу, паважаныя калегі, альтэрнатывы палітычнай сістэме, якая базіруецца на плюралізме меркаванняў і шматпартыйнасці, забеспячэнні ўмоў для кожнага чалавека свабоднага развіцця асобы, уключаючы свабоду веравызнання. Дарэчы, я вялікі праціўнік таго, што часам рэлігійныя дзеячы ўцягваюцца ў палітыку. Царква павінна быць аддзелена ад дзяржавы, ад школы, і прытрымліванне той ці іншай рэлігіі — гэта справа самога чалавека, самога грамадзяніна.

Я не бачу альтэрнатывы прававой дзяржаве, дзе б вяршэнстваваў закон, а стваломі усёй грамадскай сістэмы была не нейкая адна галіна ўлады, а тым больш адна асоба, а Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Хацеў бы пры гэтым падкрэсліць, што перад законам павінны быць усе роўныя. Парушаць закон нікому не дазволена. І нам трэба як мага хутчэй прыняць закон, дзе б прадугледжвалася самае суровае пакаранне за парушэнне ці невыкананне закона. Дарэчы, да ўсіх гэтых высноў я прыйшоў не сёння і нават не ўчора, а будучы яшчэ ў партыйнай школе. Публічна я іх выказаў ужо ў 1990 годзе на пашыраным пасяджэнні прэзідыума Усесаюзнай сельскагаспадарчай акадэміі імя Леніна.

Сёння ў Прэзідыума Вярхоўнага Савета ёсць сваё бачанне і шляхоў пераходу да такога грамадства. Пра гэта я таксама выказваўся ў друку. Упэўнены, што на гэты конт ёсць разумныя меркаванні ў кожнага з дэпутатаў, у нашых вучоных, вытворцаў. Таму нам трэба супаставіць свае меркаванні і знайсці аптымальнае. Яно хутчэй за ўсё будзе знаходзіцца на скрыжаванні.

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета! Пытаннем, якое цяпер узмоцнена дэбатуецца не толькі ў нас, у Вярхоўным Савеце, і кабінетах выканаўчай улады, але і ў грамадстве ў цэлым, з'яўляецца пытанне аб лёсе нашай дзяржавы ў сувязі са стварэннем Супольніцтва з Расіяй. І я не магу не выказацца на гэты конт. Маё цвёрдае перакананне, што паглыбленне эканамічнай інтэграцыі з Расіяй — гэта аб'ектыўны і неабходны працэс.

У той жа час, нягледзячы на любую глыбіню эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй, Рэспубліка Беларусь павінна заставацца суверэннай дзяржавай, як мы і прадугледзелі ў рашэнні Вярхоўнага Савета. Больш таго, інтэграцыя з Расіяй не павінна процістаўляцца пашырэнню і паглыбленню сувязей з іншымі краінамі.

Выкарыстоўваючы сваё геастановішча, нам трэба весці ўмераную, але ў той жа час дакладна абазначаную палітыку на ўмацаванне сваёй дзяржаўнасці, а не на яе размыванне. Для нас вельмі важна, каб Рэспубліка Беларусь як мага хутчэй стала членам Савета Еўропы і больш актыўна праяўляла сябе пры правядзенні міжнародных форумаў. Нам трэба мець добрыя адносіны як з краінамі-суседзямі, так і з больш далёкімі краінамі.

Менавіта з гэтай мэтай я і ездзіў у Злучаныя Штаты Амерыкі разам з дэпутатам Гіруцем і памочнікам Старшыні Вярхоўнага Савета Улаховічам. Мы там сустракаліся з многімі дзяржаўнымі дзеячамі, якія вызначаюць палітыку гэтай вялікай і багатай не толькі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, але і развіццём дэмакратыі краіны. Вядома, і там ёсць праблемы, ёсць нават негатыўныя моманты. Але нельга адмаўляць і той факт, што там чалавек як асоба свабодны, у большасці выпадкаў можа раскрыць свае здольнасці. Свабода гэтая гарантуецца не чым іншым, як уласнасцю ў спалучэнні з абавязкам кожнага захоўваць закон, пачынаючы ад прэзідэнта, паліцэйскага і канчаючы наёмным рабочым.

Асабліва значнымі ў гісторыі гэтай краіны засталіся тыя прэзідэнты, пачынаючы з Вашынгтона, якія ў меру свайго разумення ўмацоўвалі аўтарытэт заканадаўчай улады, шукалі з ёй канструктыўнага супрацоўніцтва і прапаноўвалі меры для павароту эканомікі ў бок вырашэння сацыяльных пытанняў. Нельга было не заўважыць у амерыканцаў і паважлівых адносінаў да сваёй гісторыі. Дарэчы, ёсць дамоўленасць аб паездцы ў гэтую краіну яшчэ некалькіх дэпутатаў, а таксама аб рэгулярным абмене меркаваннямі паміж нашымі дэпутатамі і прадстаўнікамі кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі.

Знаходзячыся ў ЗША, сустракаючыся з дзяржаўнымі дзеячамі і проста радавымі людзьмі, мы паўсюдна адчувалі добразычлівасць, павагу да нашай краіны. У гэтым, відаць, і заключаецца дыялектыка. Паважаць іншыя краіны можа толькі той, хто любіць сваю краіну, гэтак жа як і беражліва ставіцца да дзяржаўнай уласнасці, уласнасці іншага грамадзяніна можа толькі той, хто мае сваю ўласнасць. Амерыканцы і патрыёты сваёй краіны, і вельмі беражліва ставяцца да ўласнасці, чыя б яна ні была: свая, дзяржаўная ці ўласнасць суседа.

На наш погляд, нам таксама трэба ўзняць на шчыт нашу беларускую нацыянальную ідэю, вядома ж, не ўпадаючы пры гэтым у нацыяналізм. Сусветная практыка паказала, што без гэтага ніводная дзяржава не мела поспеху ў сваім развіцці. І Вярхоўны Савет павінен тут унесці сваю лепту, пачынаючы, можа быць, з парламенцкіх слуханняў пытання аб багатай гісторыі і культуры беларускага народа, з выхадам пасля гэтага на прыняцце пэўных рашэнняў.

Пры гэтым усе мы разумеем, што для кожнага з нас асаблівае значэнне мае руская культура, на якой мы выхоўваліся, але яна не павінна зацямняць родную для нас самабытную беларускую культуру. Веданне рускай культуры не павінна падмяняць неабходнасць вывучэння шэдэўраў сусветнай культуры. Наданне рускай мове статусу раўнапраўнай з беларускай я, напрыклад, разглядаю як абавязак кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, і ў першую чаргу дзяржаўных служачых, ведаць адну і другую мову. Пры гэтым, па-першае, раўнапраўная ў зносінах, на наш погляд, яшчэ не значыць дзяржаўная, а па-другое, вывучэнне рускай мовы не павінна адбывацца ва ўрон вывучэнню іншых прызнаных сусветнымі моў, у першую чаргу англійскай мовы.

Асаблівае значэнне ў адраджэнні беларускай гісторыі і культуры мае адраджэнне і развіццё нашых старажытных культурных цэнтраў, такіх, як Полацк, Навагрудак, Тураў, Мсціслаў, Мір, і многіх іншых. Можа быць, гэтае пытанне таксама мэтазгодна заслухаць на адной з сесій Вярхоўнага Савета.

І апошняя праблема, на якой я хацеў бы спыніцца і выказаць свае меркаванні, — гэта праблема ўдасканалення дзяржаўнага кіравання, бо, як паказвае гісторыя той жа сталыпінскай рэформы, нельга карэнным чынам рэфарміраваць эканамічны базіс пры захаванні старой палітычнай надбудовы.

У нашай жа рэспубліцы, як і ў іншых краінах СНД, у гэтым плане калі і змянілася нешта ў параўнанні з таталітарнай сістэмай кіравання, дык толькі ў горшы бок. Адміністрацыя Прэзідэнта пакуль што імкнецца заняць месца палітбюро непадзельна кіруючай у свой час камуністычнай партыі, а Прэзідэнт — яе генсека.

Што датычыцца Кабінета Міністраў, дык тут нічога, акрамя назвы, не змянілася. Чарада ўсё тых жа намеснікаў прэм'ера, існаванне якіх, на мой погляд, значна прыніжае ролю і адказнасць міністэрстваў і персанальна міністраў у развіцці галіны. І наогул роля Кабінета Міністраў як органа дзяржаўнага кіравання значна прыніжана, бо ён не з'яўляецца самастойным органам, а літаральна намертва прыкаваны да Адміністрацыі Прэзідэнта. Ён нават, як вядома, не мае заканадаўчай ініцыятывы.

Дарэчы, сусветны вопыт вучыць, што калі рэспубліка прэзідэнцкая, дык Прэзідэнт павінен сам узначальваць Кабінет Міністраў, як гэта зроблена, напрыклад, у Злучаных Штатах Амерыкі. У адваротным выпадку правы будуць у аднаго, а абавязкі — у другога. Г. зн. будзе парушана залатое правіла кіравання — збалансаванасць абавязкаў і правоў. А наогул, як паказвае вопыт Еўропы, для нас больш падыходзіць парламенцкая рэспубліка, дзе выканаўчая ўлада, г. зн. Кабінет Міністраў, знаходзіцца ў адной звязцы з парламентам, а Прэзідэнт застаецца толькі кіраўніком дзяржавы. Кіраўніком жа выканаўчай улады з'яўляецца прэм'ер-міністр.

Не ажыццёўлена ў рэспубліцы раздзяленне функцый паміж выканаўчымі і заканадаўчымі органамі ўлады па вертыкалі, чаго таксама патрабуе дэмакратыя. У нас жа зроблена толькі раздзяленне функцый кіравання паміж дзяржаўнымі галінамі ўлады, г. зн. па гарызанталі.

Вось, на наш погляд, тыя асноўныя складаныя часткі канцэпцыі развіцця нашай рэспублікі, якія чакаюць сваёй распрацоўкі. Думаецца, што галоўная задача, якую павінны вырашаць у бліжэйшы час Вярхоўны Савет ці то разам з Прэзідэнтам (гэта лепшы варыянт), ці то самастойна, прыцягваючы пры гэтым пералічаныя вышэй арганізацыі, што, безумоўна, з'явіцца горшым варыянтам.

Заявіўшы пра гатоўнасць узяцца за самую адказную работу, Вярхоўны Савет павінен сам стаць больш арганізаваным. Яго нельга разгойдваць. Нам трэба павысіць адказнасць членаў Прэзідыума і кіраўнікоў пастаянных камісій. Я, напрыклад, лічу, што не чым іншым, як недапрацоўкай пастаянных камісій, можна растлумачыць тое, што мы пачынаем ствараць часовыя камісіі для выканання тых функцый, якія ўваходзяць, па сутнасці, у абавязкі пастаянных камісій.

Што ж датычыцца мяне як Старшыні Вярхоўнага Савета, дык такія паняцці, як добрасумленнасць і сумленнасць, для мяне заўсёды былі святыя. У той жа час прызнаю, што і ў мяне ёсць шмат упушчэнняў, памылак. Я не заўсёды задаволены зробленым і гатовы прыслухоўвацца да парады іншых, выслухоўваць іх прапановы і просьбы. Таму, як і абяцаў, я штодзённа сяджу на рабочым месцы пасля 18 гадзін і гатовы прыняць кожнага дэпутата, хто толькі пажадае.

Вось усё тое, што я хацеў давесці да вашага, паважаныя калегі, ведама. Пры гэтым не думаю, што па майму выступленню трэба адкрываць нейкія спрэчкі. Пасля 12 чэрвеня вернецца з адпачынку Прэзідэнт. Я перагавару з ім, каб ён, як патрабуе таго Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета з дакладам аб становішчы ў дзяржаве. Тады мы абмяркуем яго даклад з улікам выказаных сёння мной прапаноў і прымем адпаведнае рашэнне.

Дзякуй за ўвагу. (Апладысменты.)

# ПАРЛАМЕНТ ПРЫМУШАЕ СЯБЕ ПАВАЖАЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

якім зусім не дамінуе прэзідэнт. І той свабодны лад жыцця амерыканскага грамадства, з якім азнаёміўся Сямён Шарэцкі падчас візіту, прывёў да дабрабыту і росквіту ЗША. Гэта С.Шарэцкі таксама бачыў на свае вочы. Нельга не скідваць з рахунку і шматлікія сустрэчы лідэра нашага Вярхоўнага Савета з прадстаўнікамі парламентаў краін СНД і іншых дзяржаў, што ў цэлым падштурхоўвае С.Шарэцкага да ўсведамлення неабходнасці развіцця парламентарызму, усталявання большай ролі Вярхоўнага Савета ў жыцці краіны. Несумненна, што пасадзейнічала гэтаму і тое, што ў самім парламенце Сямёну Шарэцкаму пачалі «дыхаць у патыліцу»: ініцыятыва дэпутата Нісцюка аб зборы подпісаў за адкліканне Шарэцкага з пасады старшыні не магла пакінуць апошняга раўнадушным. Акрамя таго, у прэсе ўсё часцей сталі друкавацца водгукі, што Вярхоўны Савет губляе свой твар. Сямён Шарэцкі вырашыў даказаць адваротнае, ён зрабіў некалькі крокаў, каб прымусіць паважаць і сябе, і парламент.

Другім пасля яго сенсацыйнай прамовы ў парламенце падобным крокам стала рабочая нарада ў кабінеце Старшыні Вярхоўнага Савета, на якую былі запрошаны прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык. Нарада гэтая праходзіла ўчора за зачыненымі дзвярыма, цягнулася яна прыкладна паўтары гадзіны. Прэм'ер-міністр спазніўся на пачатак гэтай нарады на 15 хвілін, а вось Міхаіл Мясніковіч не прыйшоў зусім, спаслаўшыся на тэрміновае даручэнне Прэзідэнта А.Лукашэнкі. Апошні факт, відаць, сведчыць аб тым, што выканаўчая ўлада ўспрыняла прамову Сямёна Шарэцкага і прапанову правесці нараду даволі стрымана.

Больш таго, пасля заканчэння гэтай нарады старшыня ФПБ У.Ганчарык зазначыў журналістам, што, на яго погляд, выканаўчая ўлада ўспрымае апошнія падзеі ў парламенце як нейкую змову. Аднак, на думку лідэра ФПБ, гэта ўсё не супраць Прэзідэнта, а супраць сітуацыі, якая склалася... Дзяржаўны сектар эканомікі не развіваецца, прыватны сустракаецца з пастаўленымі дзяржавай перашкодамі для росту, інвестыцыі з-за межаў не ідуць — наша краіна можа аказацца ў тупіку. У.Ганчарык паведаміў таксама, што на гэтай нарадзе быў разгледжаны блок пытанняў, закранутых у выступленні С.Шарэцкага, галоўныя з якіх датычыліся вострых эканамічных праблем. Абмяркоўвалася праблема аб'яднання намаганняў усіх галін улады для выпрацоўкі праграмы выйсця з крызісу. Размова ішла аб тым, што нельга адступаць ад рыначнага вектара развіцця нашай эканомікі, што трэба даваць «аддушыны» для бізнесу і здымаць забароны. Была абмеркавана праблема выплаты запазычанасцей па зарплаце, якая будзе разглядацца ў тым ліку і на заканадаўчым узроўні... Разглядалася таксама неабходнасць не дапусціць далейшай канфрантацыі ў грамадстве, у прыватнасці, падчас наступных масавых акцый — 22 чэрвеня, 3 ліпеня...

Прэзідэнт А.Лукашэнка павінен вярнуцца 12 чэрвеня, напэўна, ён працягне дыялог з заканадаўчай галіной улады, распачаты прэм'ер-міністрам учора. У цэлым гэта павінна паспрыяць правядзенню больш узважанай збалансаванай палітыкі на аснове раўнапраўнага партнёрства ўсіх галін улады. Натуральна, што Сямёну Шарэцкаму спатрэбіцца нямала намаганняў на тое, каб адстаяць выказаныя ім пазіцыі і падыходы. Калі гэта яму ўдасца, тады ён сапраўды зможа прымусіць паважаць і сябе, і парламент.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*У КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА*

# ЯК ВЫРАТАВАЦЬ БЮДЖЭТ?

**Выкананне бюджэту 1996 года ў запланаваных аб'ёмах немагчыма пры той эканамічнай сітуацыі, што склалася цяпер у рэспубліцы. Да такой высновы прыйшлі на сваім пасяджэнні члены Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах. З інфармацыяй аб выкананні рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў за чатыры месяцы бягучага года перад дэпутатамі выступіў міністр фінансаў Павел Дзік.**

Адзначалася, што негатыўныя тэндэнцыі ў фарміраванні даходнай часткі дзяржбюджэту значна паглыбіліся: знізілася доля даходаў бюджэту ў валавым унутраным прадукце; ВУП аказаўся на 2 працэнты ніжэй за прагназіруемы ўзровень; зніжэнне планавых даходаў кансалідаванага бюджэту склала 12,2 працэнта; удвая ў параўнанні з адпаведным перыядам 1995 года скарацілася ўдзельная вага падатку на прыбытак; паступленні ад прыватызацыі аказаліся на ўзроўні ўсяго толькі 580 млн. рублёў (58 працэнтаў ад плануемага); практычна спынена дапамога міжнародных фінансавых арганізацый.

Камісія прыняла рашэнне ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета пытанне аб справаздачы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь па выкананню дзяржаўнага бюджэту за першае паўгоддзе 1996 года ў верасні на другой сесіі парламента і прапанаваць заслухаць на адным з бліжэйшых пленарных пасяджэнняў інфармацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі аб эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

# ЦІ АДОЛЕЎ БЕЛАРУС ДЫФТЭРЫЮ?

**Быць ці не быць у Беларусі дыфтэрыі? Гэтае пытанне ўжо не здаецца такім рытарычным пасля завяршэння ў краіне 31 мая процідыфтэрыйнай кампаніі, у выніку якой 92 працэнтам насельніцтва, якое падлягала вакцынацыі, былі зроблены неабходныя прышчэпкі. На ўсе 100 (!) працэнтаў прышчапіліся ў Віцебскай, Гомельскай і Гродзенскай абласцях, на 98 — у Магілёўскай, 95 — у Мінскай, 88 — у Брэсцкай і толькі на 60,5 працэнта — у беларускай сталіцы.**

Выклікае трывогу наступная лічба: асобы «групы рызыкі», а да іх належаць работнікі гандлю, лячэбна-прафілактычных установаў, педагогі, студэнты, «бамжы» і алкаголікі, на ўколы яўна не спяшаліся і да ўрачоў дайшлі толькі 22,3 працэнта (!) ад іх колькасці.

Удала ці не зусім, але, тым не менш, першы этап вакцынацыі пройдзены. А вось колькі народу прыйдзе на абавязковую другую прышчэпку, якая адбудзецца ў канцы чэрвеня-ліпені, невядома. Яшчэ больш праблематычнай выглядае неабходная рэвакцынацыя праз 9—12 месяцаў: — занадта вялікі адрэзак часу, каб падобная падзея ўтрымалася ў памяці людзей.

А між тым медыкі настойліва рэкамендуюць не ігнараваць паўторную вакцынацыю, таму што адна атрыманая прышчэпка абароны ад захворвання нікому не дае і можа атрымацца так, што аднаразова перанесеныя «пакуты» могуць аказацца марнымі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# «КУЛЬТУРЫ ТРЭБА ДАПАМАГАЦЬ, А НЕ КІРАВАЦЬ ЁЮ...»



*З народным мастаком Рэспублікі Беларусь, рэктарам Беларускай акадэміі мастацтваў прафесарам Васілём ШАРАНГОВІЧАМ гутарыць журналіст Анатоль МЯСНІКОЎ.*

**— ВАСІЛЬ ПЯТРОВІЧ, як вы ацэньваеце сённяшні стан беларускага нацыянальнага мастацтва?**

— Сказаць, што стан беларускага нацыянальнага мастацтва дрэнны, ці, наадварот, добры, вядома ж, нельга. І тое, і другое вызначэнне будзе непраўдзівым.

Ва ўсе эпохі і часы мастацтва так ці інакш было звязана са станам грамадства. Цяпер яно апынулася ў абсалютна новых умовах. Зняты кардон — гэта вельмі важная падзея. Раней мы былі, калі можна так сказаць, адсечаны ад сусветнага культурнага працэсу,варыліся, па сутнасці, у сваім соку. Панаваў непарушны дагматызм з яго жорсткімі рамкамі. Аб тым, што рабілася ў свеце, ведалі адзінкі.

І вось адкрылася магчымасць, скажам, тым жа мастакам, артыстам паказаць сваю творчасць на сусветнай арэне. Захад таксама са здзіўленнем адкрыў для сябе пласт культуры і мастацтва, раней яму невядомы, прытым пласт даволі высокага гатунку. Узаемадзеянне культур стала больш цесным. Мне бліжэй выяўленчае мастацтва, таму і буду больш гаварыць пра яго. Ды і працэсы тут адбыліся найбольш выразныя...

Вядома, што доўгі час накірункам нашага мастацтва быў сацрэалізм, збочыць з якога было не толькі забаронена, але і небяспечна. Аднак нахлынула свабода творчасці, якая адразу, асабліва моладдзю, не магла быць адпаведным чынам асэнсавана. Добра гэта ці блага, але ўзнік і рынак, у тым ліку рынак і ў мастацтве. На моладзі, на маю думку, гэта адбілася не лепшым чынам. Многія, калі не большасць, кінуліся праяўляць сябе ў новых авангардных накірунках. Шлюз адкрыўся.

Цяпер наша мастацтва знаходзіцца ў пошуку. Думаю, тое, што былі жорсткія рамкі, — дрэнна, у мастацтве павінны быць розныя праяўленні. Але ў нас прывыклі, як кажуць, шарахацца... Галоўнае ж, каб усё было прафесіянальна і шчыра. Калі ж з'яўляецца кан'юнктура, мастацтва знікае, і гэта трэба ацэньваць зусім іншымі катэгорыямі.

Ніякія заклікі вярнуцца назад ужо не дапамогуць, бо кола гісторыі няўмольнае. А вось як мы пойдзем наперад — у мастацтве прадбачыць цяжка. І ў гэтай сувязі ў мяне ёсць пажаданне, у першую чаргу моладзі, не надта захапляцца Захадам. Сапраўднае мастацтва заўсёды грунтавалася на нацыянальнай глебе. Яно наталялася менавіта нацыянальнымі каранямі. Мастацтва — гэта глыбінная сутнасць пазнання народа, яго прыроды, традыцый, звычак, гэта глыбокае пранікненне ў гісторыю народа і яго жыццё, і забываць гэта нельга. Мы заўсёды будзем цікавыя для любой іншай краіны, калі будзем спавядаць нацыянальнае мастацтва, весці пошукі ў рамках свайго нацыянальнага менталітэту. Паўтарэнне пройдзенага нікому не цікава і не патрэбна.

**— Сёння чуюцца меркаванні аб адсутнасці дзяржаўнай праграмы развіцця культуры, аб адсутнасці яе падтрымкі. Як вы глядзіце на гэтыя праблемы?**

— Строгай праграмы развіцця культуры ва ўсіх яе разгалінаваннях пакуль няма, але гаварыць аб адсутнасці дзяржаўнай падтрымкі, думаю, было б несправядліва. Аб гэтым сведчыць мноства мерапрыемстваў, фестываляў, мастацкіх выставак. Іншая справа — іх якасць, узровень. Занадта часта захліствае нас дылетантызм і нахабства ў мастацтве. Пагэтаму многа народных грошай выкідваецца ўпустую, на вецер. Ёсць добры Закон аб культуры, але ён не выконваецца ў асноўнай яго частцы — узроўні фінансавання, што гаворыць аб немагчымасці належнага забеспячэння мастацтва і культуры.

А падтрымка ад дзяржавы, асабліва ў сённяшні час, патрэбна абавязкова. Лозунг аб тым, што мастацтва павінна само зарабляць, кінуты некалькі гадоў назад, быў памылковым і авантурыстычным. Ніколі ў гісторыі гэтага не было. Ды і немагчыма гэта. Дзяржаўная праграма развіцця культуры не павінна азначаць, як некаторым дзеячам хацелася б, што ўрад «кіруе», «накіроўвае», «насаджвае» і г. д. Ён павінен дапамагаць творцам, а не станавіцца ўпоперак дарогі, як гэта было ў нас зусім нядаўна...

**— Неяк вы выказалі занепакоенасць тым, што падае духоўны ўзровень нацыі. Што вы мелі на ўвазе?**

— На вялікі жаль, стаўленне да культуры, да духоўнага жыцця народа за апошнія дзесяцігоддзі ў нас не змяніліся. Астаткавы прынцып фінансавання быў і застаўся. Я заўсёды казаў і кажу: ніколі без развіцця, без уздыму культуры і духоўнасці ні ў эканоміцы, ні ў чым іншым поспехаў мы не даб'ёмся.

Многія дэмакратыю і свабоду ў свой час зразумелі як усёдазволенасць. А гэта ж у першую чаргу адказнасць. Адказнасць за сябе, сваіх дзяцей, за лёс Радзімы, а калі, дапусцім, ты кіраўнік — за лёс калектыву. Але ж паглядзіце: тое негатыўнае, злачыннае, што яшчэ ўчора было прыкрыта, прытоена — сёння выпаўзла на паверхню, захліснула жыццё. На віду з'явіліся гарлапаны, а разумныя таленавітыя людзі, якія шмат працуюць, шмат робяць — у тым ліку і ў сферы культуры і мастацтва — засталіся ў цяні. Думаю, што ў параўнанні з мінулым гэта «хвароба» абвастрылася яшчэ больш.

Мы на мяжы духоўнай катастрофы, і калі не будзе звернута ўвага на гэта ўладных структур на ўсіх узроўнях — яе, катастрофы, нам не мінаваць!

**— Ды і класік меў рацыю: свет выратуе прыгажосць...**

**Васіль Пятровіч! Прадоўжыце, калі ласка, вось такую думку: мастак прыходзіць у свет, каб дапамагчы людзям набыць чалавечыя якасці...**

— Думка філасофскага характару. Для чаго чалавек у свой час, калі можна так сказаць, прыдумаў мастацтва? Звернемся да наскальных роспісаў. Ужо пячорны чалавек, напэўна, рабіў першыя крокі да катэгорыі эстэтычнага. А ўспомнім высокае мастацтва скіфаў, узоры народнага мастацтва. Гэта — вечнае імкненне людзей убачыць і стварыць прыгожае. І так з пакалення ў пакаленне, са стагоддзя ў стагоддзе.

Высокае грамадзянскае прадвызначэнне мастацтва — у яго высокай гуманістычнай місіі фарміравання чалавека і чалавечых адносінаў па законах дабра і прыгажосці, у сцвярджэнні агульначалавечых, вечных ідэалаў. Пафіласофску асэнсаваць свет, час, гісторыю, убачыць прыгожае там, дзе звычайны чалавек гэтага не бачыць, і паказаць людзям — думаю, у гэтым галоўная задача мастака.

**— Гадоў некалькі назад мы заявілі аб сваім нацыянальным адраджэнні. Як вы мяркуеце: сёння яно ідзе, працягваецца ці прыпынілася, прытармазілася?**

— У плане адраджэння за апошнія гады зроблена шмат. Але нельга пагадзіцца з тымі заявамі, што ўсё было зроблена толькі тады, калі рассунуліся рамкі, калі з'явілася больш магчымасцей, свабоды, дэмакратыі... А раней нібы нічога і не рабілася. Для мяне асабіста гэта гучыць абразліва. Так, раней ставіліся палкі ў колы, нешта забаранялася, не дазвалялася, замоўчвалася або фальсіфікавалася гісторыя. Але ж і ў тыя складаныя часы многімі людзьмі, сапраўднымі патрыётамі, адкрываліся невядомыя пласты гісторыі і культуры, пракладваліся шляхі да незалежнасці нашай дзяржавы.

Калі мы гаворым пра адраджэнне, то сёння самае галоўнае, мне здаецца, захаваць нацыю, яе генафонд, захаваць мову, культуру, не даць зноў фальсіфікаваць гісторыю, не дапусціць разрабавання гістарычных, духоўных і культурных каштоўнасцей.

Працэс пазнання самога сябе ідзе разам з жыццём таго ці іншага народа, і ён не можа прыпыняцца, можа толькі прытармožвацца.

**— Васіль Пятровіч! Якой вам бачыцца беларуская нацыянальная ідэя? Як вы яе разумееце?**

— Па-першае, існуе шырокі спектр думак і выказванняў наконт паняцця нацыянальнай ідэі. Я разумею яе як высокаразвітую нацыянальную самасвядомасць народа на аснове любові да сваёй зямлі, сваёй мовы, да яе гісторыі, да сучаснасці і будучыні Бацькаўшчыны.

Любоў — гэта неабдымнае паняцце. Мы нячаста над гэтым задумваемся, але, як мне здаецца, менавіта яна — рухавік усяго нашага жыцця. Нельга любіць іншых, не маючы любові да саміх сябе. Успомнім адзін з запаветаў Хрыста: «Узлюбі бліжняга, як самога сябе».

Гэтае вялікае пачуццё аб'ядноўвае людзей, народы, вядзе іх да самаадданасці, подзвігу, самаахвярнасці ў справе служэння сваёй Радзіме.

**— Культурных, мастацкіх здабыткаў у нас шмат. Як вы мяркуеце, ці зберажом мы іх? Ці захаваем школы ў жывапісе, музыцы, балеце і г. д.?**

— Небяспека ёсць: мастацкія здабыткі канца XX стагоддзя сплываюць за мяжу. Усё будзе залежаць ад дзяржавы — будзе яна абыякавым назіральнікам за такім працэсам, або возьме на сябе клопат аб зберажэнні іх, напрыклад, адкрые, у рэшце рэшт, музей сучаснага мастацтва.

Другое. Сёння ёсць небяспека згубіць нашы таленты як у мастацтве, так і ў навуцы. Жыццёвы ўзровень творцаў і навукоўцаў такі, што яны вымушаны шукаць шляхі, як выжыць. Многія спакушаюцца на заробкі ў іншых краінах. Мы ўжо многіх згубілі, асабліва музыкантаў і навукоўцаў... Гэта велізарная небяспека, якая адмоўна паўплывае на далейшае развіццё краіны. Дзяржава павінна неадкладна перагледзець свае адносіны да людзей з талентам і розумам.

Што датычыцца адукацыі, то, мне здаецца, у нас склаліся добрыя школы па ўсіх накірунках творчай дзейнасці. Раней існавала меркаванне, што ўсё добра толькі там, на Захадзе. Але гэта не заўсёды так, а што датычыцца мастацкай адукацыі, дык той сістэмы, якая склалася ў нас, няма практычна нідзе. Зыходзячы з гэтага, нам патрэбна на заходні вопыт глядзець крытычна, і тое, што добра ў суседа, пераймаць, аднак і свайго не цурацца. Калі мы па-сапраўднаму не будзем цаніць свае набыткі, згубім многае ўжо зробленае. І гэта датычыцца не толькі мастацтва, культуры, а і навукі, адукацыі.

**— Калі ласка, больш падрабязна пра ваш накірунак мастацкай адукацыі.**

— Каб нешта стварыць, патрэбны дзесяцігоддзі. Менавіта дзесяцігоддзі пайшлі на станаўленне нашай мастацкай адукацыі. Яна набыла сістэмнасць — ад школы да вышэйшай навучальнай установы. У Мінскі мастацкі ліцэй пры БелАМ мы набіраем адораных дзетак практычна ў першы клас. Ідзе селекцыя, адбор, і самыя лепшыя з навучэнцаў трапляюць потым у акадэмію. Цесныя сувязі ў нас з сярэднімі спецыяльнымі мастацкімі ўстановамі. Аснову сістэмы навучання складае акадэмічная мастацкая адукацыя, якая грунтуецца на рэалістычных традыцыях.

Задача школы — залажыць грунтоўны прафесіянальны падмурак. А ўжо які «дом» пабудуюць пасля нашы выхаванцы — гэта справа іх інтэлекту, іх даравання. Чым бы яны ні займаліся — рэалістычным мастацтвам або авангардным, — галоўнае, каб гэта было высокапрафесіянальна. А гэта, дарэчы, заўсёды добра відаць: дылетант што-кольвечы зрабіў ці чалавек, які мае добрую прафесіянальную адукацыю.

Яшчэ раз паўтару: станаўленне і развіццё мастака павінна праходзіць у кантэксце сусветнай культуры, духоўных пошукаў сусветнага супольніцтва, а абапірацца на нацыянальныя карані і здабыткі.

**— Васіль Пятровіч! Летась акадэмія адсвяткавала 50-гадовы юбілей. Хацелася б крыху пачуць пра гэтую падзею і пра праблемы акадэміі.**

— Падчас юбілею праведзены шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку рэтраспектыўная выстаўка студэнцкіх работ, выстаўкі выкладчыкаў мастацкага факультэта і факультэта дызайну, выстаўка прафесара Мюнстэрскай акадэміі Удо Шэля з вучнямі. А самае галоўнае, на мой погляд, тое, што ўпершыню быў выдадзены альбом «Вытокі творчасці», дзе ў пэўнай меры падсумаваны здабыткі акадэміі, раскрываецца спектр нашай дзейнасці.

Дарэчы, вось такая прыемная для нас статыстыка. Сярод выпускнікоў акадэміі 4 народныя артысты СССР і РСФСР, 6 народных мастакоў Беларусі, 18 народных артыстаў Беларусі, 29 заслужаных дзеячаў мастацтваў, 33 заслужаныя артысты Беларусі, 26 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Беларусі, 8 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР і г. д.

Юбілей даў магчымасць не толькі падсумаваць зробленае, але і самакрытычна глянуць на нашу дзейнасць, нашы магчымасці, намеціць шляхі развіцця нашай установы на новым этапе, у новых гістарычных умовах развіцця грамадства.

Сёння ў грамадстве праходзяць няпростыя, неадназначныя працэсы, падчас супярэчлівыя, і гэта не можа не адбіцца на развіцці мастацтва, а значыць, і мастацкай адукацыі. Добра, што тыя негатыўныя, неспрыяльныя для развіцця мастацтва з'явы не адбіваюць ахвоту ў дзяцей і моладзі стаць творцамі, хаця яны і ведаюць, што гэтая дзейнасць сёння не ў пашане. Значыць, не ўсё страчана, калі ёсць імкненне да высокіх эстэтычных і гуманістычных ідэалаў.

Пад дахам акадэміі сабраны ў асноўным лепшыя на сённяшні дзень творчыя сілы Мінска, ды і рэспублікі. Дастаткова сказаць, што ў нас працуюць 5 народных мастакоў, 2 народныя артысты, 9 заслужаных дзеячаў мастацтва, 19 прафесараў, дактароў навук, 67 дацэнтаў, кандыдатаў навук, працуе таленавітая моладзь. Але, на вялікі жаль, сёння выкладчыцкая праца не з'яўляецца прэстыжнай. Ды і як яна можа быць прэстыжнай, калі зарплата прафесара не можа забяспечыць яму не тое што дастойнае жыццё, але і існаванне наогул. А каб стаць прафесарам, аднаго, а то і двух дзесяцігоддзяў бывае мала. Вось і не імкнецца моладзь на выкладчыцкую работу. Што тут казаць, калі пасада загадчыка кафедры ўжо, практычна, нікога не вабіць.

У сувязі з гэтым у нас, ды і ва ўсёй вышэйшай школе ўзнікаюць праблемы з кадравым забеспячэннем.

Што датычыцца мастацкай адукацыі, то, як паказвае практыка, выхоўвацца педагогі павінны з маладых гадоў, а не прыходзіць на выкладчыцкую работу ўжо сталым, склаўшымся майстрам. Дарэчы, сістэмы падрыхтоўкі выкладчыцкіх кадраў для вышэйшых і сярэдніх мастацкіх устаноў у нас у рэспубліцы ніколі не было. Нам давялося адкрыць асістэнтуру-стажыроўку, каб хоць неяк папravіць гэту справу. Але належнай базы ў нас няма. Лічу неабходным адкрыць і творчую аспірантуру. Калі падыходзіць сапраўды па-дзяржаўнаму, дык творчыя майстэрні пад кіраўніцтвам М. Савіцкага маглі б стаць структурай па падрыхтоўцы педагагічных кадраў для рэспублікі ў цэлым, калі рэфарміраваць іх у аспірантуру, асістэнтуру-стажыроўку і факультэт павышэння кваліфікацыі. Дарэчы, у многіх рэспубліках былога Саюза аналагічныя акадэмічныя майстэрні былі перададзены як падраздзяленне вышэйшым навучальным установам. Гэту праблему мы ўзнімалі некалькі гадоў назад, звярталіся з адпаведным лістом у міністэрства... Бо на сённяшні дзень творчыя майстэрні не маюць пэўнага статусу. Набіраюць туды нашых былых студэнтаў, яны займаюцца асабістай творчасцю на працягу трох гадоў, а пасля іх выключаюць. Знаходжанне ў гэтых майстэрнях на далейшым іх жыццёвым або творчым лёсе не адбіваецца ніяк, проста яны падоўжылі больш-менш бесклапотнае творчае жыццё ў добрых умовах.

Майстэрні ж маглі б стаць важным звяном у сістэме мастацкай адукацыі рэспублікі.

**— Дарэчы, у нашай газеце «Звязда» ад 4 мая 1996 г. прагучала рэзкая крытыка ў адрас акадэміі з боку вядомага мастака М. Савіцкага. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— У інтэрв'ю з ім прагучала не канструктыўная крытыка, а агульнае ганьбаванне ўсіх і ўся ў акадэміі, што не сведчыць аб зацікаўленым стаўленні М. Савіцкага да праблем, якія сёння ва ўсіх нас ёсць. Многія выказванні па іншых пытаннях проста здзіўляюць. Я падтрымаў абурэнне калектыву, якое вылілася ў адкрыты ліст («Звязда»за 17 мая), бо спробы ачарнення дзейнасці акадэміі носяць планамерны характар. І гэта замест таго, каб разабрацца ў рэаліях сённяшняга дня. А яны такія, што акадэмія з'яўляецца жывым творчым арганізмам, а не рэзервацыяй, абгароджанай бетоннай сцяной. Яна ўплывае на многія творчыя працэсы, але і знешняе творчае жыццё ўплывае на яе. Навучальны працэс заканамерна носіць кансерватыўны характар, але ён павінен развівацца ў часе і ў адпаведнасці з ім. І наогул дзіўнае ў нас становішча: з аднаго боку, ідзе апантаная крытыка, што мы зруйнавалі навучальны працэс, г. зн. прадаставілі студэнцтву поўную свабоду, а з другога — што наша ўстанова носіць крайне кансерватыўны характар, там душаць усялякую свабоду творчасці. Дык можа мы ўсё ж такі стаім на правільным шляху? Бо, як гаворыцца, залатая сярэдзіна заўсёды бліжэй да ісціны.

**— А што вы можаце сказаць адносна артыкула А. Савіцкага («Звязда» за 22 мая)?**

— Што датычыцца артыкула малодшага Савіцкага, то спрачацца з ім ніжэй майго гонару, ды і няма аб чым. Ён у чарговы раз паказаў свой нізкі этычны і маральны ўзровень. Шкада толькі, што, апынуўшыся ў нашай установе без аніякай мастацкай падрыхтоўкі і намаганнямі нашых выкладчыкаў атрымаўшы дастойную адукацыю, ён цяпер выказвае чорную няўдзячнасць і замест таго, каб заявіць сябе ў мастацкай творчасці, заняўся эпісталярнай. А гэта, як правіла, раней ці пазней прыводзіць на абочыну жыццёвай дарогі.

**— Шмат гадоў вы і творца, і педагог, і адміністратар, і грамадскі дзеяч. Як вам удаецца ўсё гэта спалучаць?**

— Скажу вам — гэта вельмі цяжка. У сценах акадэміі я ўжо 35 гадоў. Тут сфарміраваўся і як чалавек, і як мастак, таму перад нашай навучальнай установай даўжнік. 17 гадоў загадваў кафедрай, 3 — быў прарэктарам, і вось ужо 7 гадоў працую рэктарам. Для мяне гэта — другі дом.

Дом, акадэмія, майстэрня — спалучыць гэта вельмі складана. Праўда, яшчэ ў студэнцкія гады мяне называлі сяміжыльным. Шмат даводзіцца аддаваць сіл, часу, намаганняў рабоце, ахвяруючы асабістай творчасцю, сям'ёй. Але я не шкадую ні аб чым. Калектыў у нас падабраўся цікавы, творчы, а калі цябе разумеюць — гэта ўжо добра. Хаця з кожным годам працаваць становіцца цяжэй. У першую чаргу таму, што даводзіцца займацца не сваімі справамі: замест вучэбна-выхаваўчага працэсу — забеспячэнскімі абавязкамі. Даводзіцца нешта выбіваць, выпрошваць, даставаць... Ну хіба гэта рэктарскія функцыі?!

Але я, паверце, не скарджуся. Добра разумею: такое цяпер жыццё.

# КАРАЛЕВА КАРУНКАЎ

*Пра жанчыну, якая адчувае сябе заўжды маладой, лічыць сябе багатай, а па вуліцы ідзе, як па подыуму*



***Нейкі вядомы разумны мужчына некалі сказаў, што кожная жанчына нараджаецца на гэты свет, каб упрыгожыць яго сабой. Гэта яе першае і найважнейшае прызначэнне.***

***У гэтага разумнага мужчыны і сёння ёсць браты-паслядоўнікі. Ва ўсякім разе, наўрад ці хто з прадстаўнікоў моцнай палавіны чалавецтва будзе аспрэчваць ужо стаўшую класічнай думку аб прызначэнні жанчыны на зямлі. Але словы — гэта толькі словы, а кветкі і зусім-зусім рэдкія падарункі — гэта хутчэй па традыцыі.***

***Зусім іншая справа, калі жанчына сама гляне ў люстэрка і, забыўшыся раптам пра ўсе торба-хатне-грашовыя клопаты, успомніць, не, дакладней зразумее, што яна проста павінна ўпрыгожваць сабой свет. І захоча гэта зрабіць. Тады ўжо словы набываюць рухава-практычны сэнс у выглядзе актыўнага пошуку той рэчы, якая дапаможа стаць яе ўладальніцы сапраўдным упрыгажэннем. Тыповы маршрут такога пошуку — з дзяржаўных і камерцыйных крамаў — на кірмаш. Пасля некалькіх няўдалых спроб знайсці і прыдбаць сваё, адметнае, не такое, як ва ўсіх, убранне, энтузіязм абуджанай перспектыўнай каралевы паступова згасае, а то і тухне наогул. «Шырспажыў» на кірмашы і ў дзяржаўных крамах, цэны са шматлікімі нулямі, якія не паддаюцца рэальнаму ўяўленню, на тавары спецыялізаваных салонаў магазінаў. Дастаткова нават аднаго «ваяжу» па вышэйназваным маршруце, каб «каралева» зноў стала звычайнай «грызеткай» (дарэчы, слова ўтворана ад французскага «grise» — шэрая), вярнулася да сваіх торба-хатніх і г. д. турбот і толькі саркастычна ўсміхалася, чуючы ўзнёслыя словы аб сваім найвышэйшым прызначэнні...***

ЖАНЧЫНЕ, якую я запрасіла сягоння ў «Гасцёўню», такія метамарфозы не пагражаюць. Яна ўвесь час адчувае сябе каралевай жыцця. Яна ведае што і як для гэтага рабіць. Яна спасцігла сакрэт, над раскрыццём якога ламалі, ламаюць і будуць ламаць галаву дочкі праматухны Евы, — як выдзеліцца з натоўпу, як стаць Непаўторнай і Адзінай. Яна ўмее гэта зрабіць. І хоча падзяліцца сваім уменнем з іншымі, бо прылады яе майстэрства самыя банальныя: клубок нітак, пруткі і кручок, які ў многіх вёсках называюць больш мілагучна —шыдэлак. Сённяшняя госця «Звязды» — майстар мастацкага вязання Лідзія Панова.

Гэту жанчыну я ўпершыню ўбачыла на вуліцы. І адразу звярнула на яе ўвагу і запомніла. Як, бадай, і многія з людскога патоку, які рухаўся разам са мной ёй насустрач. А яна ішла і ўсміхалася. І хоць сягоння нават шчырая жаночая ўсмешка можа спыніць на сабе позірк — надта рэдка яе можна ўбачыць, увагу людзей прыцягвала іншае. На гэтай жанчыне было апранута нешта такое... Па чорнай вязанай аблягаючай сукенцы — ажурная жоўтая спаднічка з чырвоным аздабленнем, на плячах — гэткая ж самая палярына, на галаве — ажурная жоўтая шапачка... Ах, забылася, яшчэ была сумачка, звязаная з тых жа жоўтых нітак, аздобленая такім жа чырвоным. Карацей, калі я скажу, што ў мяне ад зайздрасці зайшлося сэрца, — модніцы мяне зразумеюць.

А пасля я выпадкова трапіла ў Дом мадэляў на паказ. І зноў пабачыла тую самую жанчыну, на гэты раз ужо на подыуме. Яна разам з дачкой дэманстравала мадэлі, звязаныя сваімі рукамі. І столькі было прыгожага, незвычайнага, вытанчанага, што калі б не фраза, сказаная перад паказам: маўляў, усе мадэлі — уласныя рэчы і продажу не падлягаюць, — выцягнула б усе наяўныя грошы, каб набыць хоць што-небудзь з таго, што паказвалі. Што ж, набыць нічога не ўдалося, але затое я пазнаёмілася са стваральніцай.

Увесь час дзіўлюся і зайздрошчу ўмельству вясковых кабет, калі бачу па-мастацку, нібы карункі, звязаныя рэчы, якія і сёння — неад'емнае і, бадай, самае лепшае аздабленне многіх хатаў. Сурвэткі, накідкі на падушках, «дарожкі», прышпіленыя наўскос да калісьці купленых, злінялых ужо, дываноў, «падзорнікі» да ложкаў, нават вялізныя пакрывалы і абрусы — карацей, палёт фантазіі самадзейных майстрых. А вось у Лідзіі Аляксееўны, акрамя захаплення мастацтвам і ўмення трымаць у руках шыдэлак, з'явілася ў юнацтве новая, зусім, здаецца, не вясковая фантазія: а што, калі ўсю гэту прыгажосць — кветкі, птушак, адмысловыя ўзоры — на сябе? Чаму замест белых нітак не ўзяць каляровыя, чаму замест абруса ці сурвэткі не звязаць спаднічку ці шапачку?

— Я настолькі загарэлася гэтай ідэяй, — расказвае жанчына, — што адразу ўзялася за кніжкі, каб спасцігнуць тэхніку вывязвання складаных узораў. Але амаль адразу зразумела, што мадэлі, якія там прапануюцца, — не тое, што трэба прыдумваць нешта сваё. На той час я ўжо нядрэнна вязала і шыдэлкам, і пруткамі, апранала ўсю сям'ю. Але для сябе хацелася нечага незвычайнага...

Аднойчы на вуліцы Віцебска жанчыну ў незвычайным вязаным убранні сустрэла галоўны інжынер трыкатажнай фабрыкі і, даведаўшыся, што ўбор звязаны самой гаспадыняй, адразу запрасіла яе на работу ў эксперыментальную лабараторыю прадпрыемства. Панова згадзілася, хаця да таго ніякіх адносінаў да трыкатажнай вытворчасці не мела: працавала спачатку бортправадніцай, пасля, калі з'явілася дзіця, — у адміністрацыі аэрапорта... Але за работу ўзялася з ахвотай, і за некалькі месяцаў супрацоўнікі эксперыментальнай лабараторыі стварылі калекцыю трыкатажных вырабаў, аздобленых шыдэлкам, якая на рэспубліканскім конкурсе ў сталіцы заняла першае месца. Але работу на фабрыцы Лідзія Аляксееўна пакінула. Тлумачыць гэта проста, нават без ценю амбіцыйнасці:

— Вядома, у лабараторыі я дзялілася з людзьмі ўменнем, навучала іх. Але... Калі справа пастаўлена на канвеер — гэта ўжо не мастацтва. Чалавек спяшаецца зрабіць не лепш, а больш, а мяне гэта не задавальняла як майстра. Таму я пакінула работу на фабрыцы і пайшла ў Дом культуры — прапанавала весці там курсы. На курсах я магла займацца з кожнай жанчынай індывідуальна, ведаючы, што майстэрства, якім я дзялюся, патрэбна іменна ёй.

Потым былі гэтыя ж курсы ў Палацы прафсаюзаў сталіцы. А ў 84-м Лідзія Аляксееўна прапанавала свае творы ў мастацкі салон. Там за ансамбль «Ружа» ёй прысвоілі званне народнага майстра. Я бачыла гэты ансамбль на паказе. Нешта такое празрыста-ружовае, сумачка, нават басаножкі гэткія ж. А на галаве — сапраўдная ружа, нібы вылепленая з нейкага танюткага пластычнага матэрыялу. І не дзіва, што такое ўражанне — ансамбль звязаны з баваўняных нітак № 10, а ружа — з «саракавых» (для недасведчаных тлумачу, што гэта звычайныя швейныя ніткі, а № 40 — ці не самыя тонкія). За гэты касцюм па тым часе (а была сярэдзіна 80-х) Пановай прапанавалі 1000 рублёў. Пазней, калі паехала да сваякоў у Амерыку, — дзесяць тысяч долараў. Не прадала. Чаму?

— Я вязала яго на сябе, мне з ім цёпла і ўтульна. Ён — мой, ён падыходзіць пад мой вобраз. Ды, урэшце, няхай у мяне самой будзе рэч коштам дзесяць тысяч...

Такі вось «легкадумны» адказ ды яшчэ веданне таго, што Панова нейкі час вязала на продаж (у мастацкі салон, для кааператыва, створанага калісьці пры «Алесі»), выклікаў не вельмі тактоўнае, але натуральнае пытанне:

— Вы, напэўна, вельмі багаты чалавек?

— О, я вельмі багатая! Калі ў Нью-Йорку я стаяла ля помніка на плошчы ў адным са сваіх касцюмаў, шматлікія турысты падыходзілі і пыталіся: «Ты гэта рабіла сама?» — «Так, сама». — «О, разумная і таленавітая жанчына!» — захапляліся амерыканцы. Гэтыя два азначэнні, на маю думку, — прымета найвялікшага багацця. А наконт грошай... Я зарабіла іх дастаткова, калі працавала на салон. Да таго ж ездзіла ў ЗША, дапамагала сваякам даглядаць дзяцей, а ў іх заведзена аплачваць працу кожнага чалавека, нягледзячы на сваяцтва... Карацей, цяпер я стварыла сабе ўмовы для работы толькі дзеля стварэння новых мадэляў для сябе, для паказаў...

Асабліва цікаўным паведамляю: аўтамабіль у Лідзіі Пановай таксама ёсць. Але ім яна амаль не карыстаецца, гэтак жа, як і грамадскім транспартам (хаця ў яе вязаных строях лезці ў перапоўнены тралейбус ці аўтобус наогул кашчунства)...

— І ўсё ж, калі спяшаюся, еду на тым, што бліжэй спыняецца. А наогул люблю хадзіць пешшу. Мой подыум — гэта вуліцы майго горада. Людзі звяртаюць увагу, некаторыя жанчыны адразу падыходзяць і пытаюцца, як звязаць той ці іншы ўзор. Даю ім свае каардынаты, ахвотна дзялюся ведамі.

Зараз для майстра галоўнае — падзяліцца сваім уменнем з іншымі. Можна сказаць, што ў Лідзіі Пановай ужо заснавана свая школа мастацкага вязання. Нядаўна яна паказвала сваю калекцыю ў Доме мадэляў. А праз два тыдні на тым жа подыуме свае творы дэманстравалі яе вучаніцы — выпускніцы універсітэта культуры, на кафедры народных рамёстваў якога Лідзія Аляксееўна выкладае дызайн вязання. Хутка пабачыць свет ужо другая кніжка майстра, прысвечаная стварэнню не адзіночных рэчаў, а прыгожых ансамбляў, якія, да таго ж, могуць мець некалькі варыянтаў. Працягваючы працаваць, Лідзія Панова разам з малодшай дачкой, якая таксама захапілася рамяством маці, сама дэманструе мадэлі на паказах: усе рэчы — асабістыя, таму на манекеншчыцах яны «не ляжаць». У планах — вывесці на паказ іншых членаў сям'і, якія таксама амаль цалкам апрануты яе клапатлівымі рукамі.

— У нас у сям'і грошы на адзенне зусім не трацяцца, — дзеліцца Лідзія Аляксееўна. — Усё, нават паліто і курткі, я вяжу сама. Я хачу быць карыснай нашым жанчынам. Я хачу падзяліцца з імі сакрэтам, як пры вечным недахваце грошай у сям'і непаўторна, прыгожа і... танна апрануць сябе і сваю сям'ю. Усе нашы жанчыны прыгожыя. Я хачу дапамагчы зразумець ім гэта. Дастаткова надзець на галаву звязаны сваімі рукамі капялюшык і ўсміхнуцца — і ты ўжо каралева... Кожная жанчына можа сябе ёй адчуць...

Калісьці шляхцянкі займаліся рукадзеллем для таго, каб рукі былі далікатнымі і белымі. Зараз урачы раяць рабіць гэта дзеля здароўя: на пальцах шмат нервовых канчаткаў...

— Памятаю, — успамінае Лідзія Аляксееўна, — жыла ў нас бабуля, якая ўвесь час нешта вязала і аддавала гэтыя рэчы людзям. У яе ў вайну загінула ўся сям'я, і яна шмат разоў паўтарала, што, каб не вязанне, яна не змагла б жыць... Сапраўды, карпатлівая праца дапамагае пераадолець любы стрэс... Да мяне на вуліцы нярэдка звяртаюцца: «Дзяўчына...» А я ўжо амаль год як бабуля — у старэйшай дачкі ўжо гадуецца сын...

Ідзе па вуліцы жанчына. Апрануўшы на сябе нешта падобнае на карункі, яна ўсміхаецца і адчувае сябе каралевай...

А вы не хочаце паспрабаваць, шаноўныя суайчынніцы? Галоўнае — жаданне. Рызыкніце!

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

**P. S. А калі вы ўжо маеце нейкія навыкі ў вязанні і рашылі рызыкнуць ужо зараз — калі ласка. Майстар Лідзія Панова раскрывае сягоння перад чытачкамі «Звязды» сакрэт ажурных шапачкі і шаліка, якія вы бачыце на фота. Праўда, прыгожа?**

## БЕЛЫ АЖУРНЫ АНСАМБЛЬ

### *Шалік*

200 г тоўстых шарсцяных нітак, кручок № 3.

*Асноўны ўзор* — вузкія ажурныя палоскі з ракушак ***(мал. 1).***




***Мал. 1.***

*Аздобны ўзор* — зубчыкі ***(мал. 2).***




***Мал. 2.***

**ВУЗКІЯ АЖУРНЫЯ ПАЛОСКІ З РАКУШАК.**

Звязаць коску з паветраных петляў.

**1-ы рад** — прапусціўшы 2 пятлі коскі, вяжам у трэцюю пятлю адзін слупок з накідам, у кожную наступную пятлю ніжняга рада яшчэ 2 слупкі з накідам. Затым 4 паветраныя пятлі. Прапусціўшы 3 пятлі коскі, вяжам у наступную пятлю адзін слупок і зноў 4 паветраныя пятлі. Прапусціўшы 3 пятлі коскі, вяжам 4 слупкі з накідам у кожную пятлю коскі.

**2-і рад** — павярнуць работу, правязаць 2 паветраныя пятлі для края. Вяжам 3 слупкі з накідам у петлі трох слупкоў папярэдняга рада, 2 паветраныя пятлі. 1 слупок вяжам пад ланцужок з 4 паветраных петляў папярэдняга рада, 4 паветраныя пятлі, 1 слупок вяжам пад ланцужок з 4 наступных паветраных петляў папярэдняга рада, 2 паветраныя пятлі, 4 слупкі з накідам у петлі слупкоў папярэдняга рада.

**3-і рад** — павярнуць работу, правязаўшы 2 паветраныя пятлі для края. Вяжам 3 слупкі з накідам у петлі 3 слупкоў папярэдняга рада, 1 паветраную пятлю, 5 слупкоў з накідам пад ланцужок з 4 паветраных петляў папярэдняга рада, 1 паветраную пятлю, 4 слупкі з накідам у петлі слупкоў папярэдняга рада.

**4-ы рад** — павярнуць работу, правязаць 2 паветраныя пятлі для края. Вяжам 3 слупкі з накідам у петлі 3 слупкоў з накідам папярэдняга рада, 4 паветраныя пятлі, 1 слупок у пятлю сярэдняга слупка з накідам з 5 слупкоў з накідам папярэдняга рада, 4 паветраныя пятлі, 4 слупкі з накідам у петлі слупкоў папярэдняга рада.

**5-ы рад** — узор паўтараецца з 2-га рада.

### *Зубчыкі*

Звязаць коску з паветраных петляў.

**1-ы рад** — прапусціўшы 2 пятлі коскі, вяжам у 3-ю пятлю 1 слупок з накідам, у кожную наступную пятлю ніжняга рада вязаць слупкі з накідам і г. д.

**2-і рад** — павярнуць работу, правязаць 2 паветраныя пятлі для края. *1 паветраная пятля, 1 слупок з накідам праз 1 пятлю ніжняга рада* і г. д.

**3-і рад** — павярнуць работу, правязаўшы 1 паветраную пятлю для края. *2 слупкі пад 1-ю паветраную пятлю папярэдняга рада, 1 слупок пад наступную паветраную пятлю папярэдняга рада, 4 паветраныя пятлі і яшчэ адзін слупок пад гэту ж пятлю папярэдняга рада* і г. д.

**ТЭХНАЛОГІЯ ВЯЗАННЯ**

Шалік вязаць з дзвюх дэталяў. Звязаць 3 вузкія палоскі з ракушак. Усяго 109 радоў, ці 36 ракушак. Аналагічна звязаць другую палову шаліка. Затым 2 дэталі абвязаць узорам «зубчыкі». Адпарыць шалік праз вільготную тканіну, злёгку прыціскаючы прасам.

З дапамогай белай пластмасавай палачкі шалік можна злучыць толькі да паловы, і атрымаецца арыгінальны шалік-каўнерык. Калі кожную дэталь скласці і працягнуць па нізе шнурок, атрымаецца кароткая камізэлька.

### *Шапачка*

Памер 56. 100 г тоўстых шарсцяных нітак, кручок № 3.

*Асноўны ўзор* — вузкія ажурныя палоскі з ракушак ***(мал. 1).***

*Аздобны ўзор* — «зубчыкі» ***(мал. 2).***

**ТЭХНАЛОГІЯ ВЯЗАННЯ.**

Шапачку вязаць знізу ўверх асноўным узорам. Звязаць коску з паветраных петляў.

**1-ы рад** — прапусціўшы 2 пятлі коскі, вяжам у 3-ю пятлю коскі слупок з накідам. *Затым 4 паветраныя пятлі. Прапусціўшы 3 пятлі коскі, вяжам у наступную пятлю адзін слупок і зноў 4 паветраныя пятлі. Прапусціўшы 3 пятлі коскі, вяжам 4 слупкі з накідам у кожную пятлю коскі*. Паўтарыць 14 разоў. У канцы рада вяжам 2 слупкі з накідам. Затым апошні слупок з накідам і 2 паветраныя пятлі пачатку рада злучыць паўслупком.

Далей 2 паветраныя пятлі для пад'ёму і вяжам па кругу 8 радоў асноўным узорам. Усе рады злучаюцца па апісанні 1-га рада. Такім чынам, шапачку не трэба сшываць.

У 9, 12, 15 радах рабіць убаўленні 14 разоў паміж ракушкамі, г. зн. вязаць 2 слупкі разам. У 10-м радзе замест 4 слупкоў з накідам будуць 3 слупкі з накідам. У 13-м радзе замест 3 слупкоў з накідам будуць 2 слупкі з накідам. У 16-м радзе замест двух слупкоў з накідам будзе 1 слупок з накідам.

Далей убаўленні рабіць у ракушках. У 18-м радзе замест 5 слупкоў з накідам вязаць 4 слупкі з накідам. У 21-м радзе замест 4 слупкоў з накідам вязаць 3 слупкі з накідам. У 22-м і 23-м радах замест 4 паветраных петляў вязаць 2 паветраныя пятлі, а замест 2 паветраных петляў вязаць 1 паветраную пятлю. У 24-м радзе замест 3 слупкоў з накідам вязаць 1 слупок з накідам. У 25-м радзе вязаць слупкі з накідам праз 1 пятлю ніжняга рада. У 26-м радзе зноў вязаць слупкі з накідам праз адну пятлю ніжняга рада. У 27-м радзе вязаць слупкі праз адну пятлю.

Ніз шапачкі абвязаць слупкамі з накідам, а затым узорам «зубчыкі». Адпарыць шапачку праз вільготную тканіну, злёгку прыціскаючы прасам.

**Умоўныя абазначэнні:**

- • *паветраная пятля*
- I *слупок*
- † *слупок з накідам*
- *—* *паўтарэнне запісу паміж зорачкамі.*

**НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..**

# «МОВА — ГОМАН ВЕКАВОГА БОРУ...»

**У маі 1979 года на старонках «Звязды» быў надрукаваны артыкул Кандрата Крапівы «Ці будем мы ездзіць па левым баку?» Народны пісьменнік і акадэмік даволі сурова крытыкаваў тых аўтараў і рэдактараў, якія, на яго думку, занадта клапоцяцца пра «беларускасць» беларускай мовы», адхіляюцца «ад агульнапрынятых правіл і норм». Артыкул выклікаў неадназначную рэакцыю ў навуковых і літаратурных колах. Адкрыты ліст Кандрату Крапіве напісаў Максім Лужанін. Але ліст не быў апублікаваны ні адразу, ні пазней — не рэкамендавалі ідэалагічныя цэнзары.**

**Друкуем ніжэй ліст па жаданню аўтара, узгадніўшы з ім невялікія скарачэнні і загаловак.**

Шаноўны Кандрат Кандратавіч! Загаловак Вашага артыкула, калі выгарнуць яго з метафарычнай фольгі, расшыфроўваецца проста: язда ў аб'езд моўнага закона («левая»), нават больш жорстка — язда супраць руху грамадства.

Проста то проста, але ці не занадта катэгарычна, бо, пішучы так, Ваша пяро акрэслівае кола адшчапенцаў, хто псуе мову «з добрымі намерамі», « ... у імя высокай ідэі, змагаючыся за «беларускасць» беларускай мовы». Значыць, па-Вашаму, шырацца намеры благія і нават зламысныя, калі з мовы «... выкараняюцца словы залатога фонду нашай мовы, якія, да таго ж, родняць нашы братнія ўсходнеславянскія мовы»?

Такія грамавыя высновы Вы робіце на супастаўленні ўсяго толькі **дзесятка слоў,** у большасці сінонімаў, і на заўвагах датычна правільнага ўжывання іх.

**Палажыць** і **пакласці** дапраўды трэба ўжываць умеючы. **Пакласці** канец сустрэчы, **пакласціся** ўпокат на падлозе, **пакласці** дзіця спаць, але: «ты мяне хоць на мяжы **палажы**, але майму кавалю не кажы», і, нарэшце, «можна і **палажыць**, калі ёсць што **пакласці**». Прыклады — народныя, не зусім згодныя з Вашымі вымаганнямі.

Далей: **паязд** —фурманкі з маладымі і дружкамі, **паязджане** вядомыя даўно. **Цягнік**, па-мойму, больш адпавядае паравозу, таму, што **цягне**. Гэта слова надзвычай шырока ўвайшло ў літаратурную мову, хоць, магчыма, і стала пашырацца толькі з 20-х гадоў. думаецца, перафразіруючы Ваш жарт, няма падстаў сілком сцягваць аўтараў з **цягніка** і ўсаджваць іх змусам на **поезд**.

Са здавальненнем ужываю словы, над якімі, здаецца Вам, навісла пагроза байкоту: **успомніць** і **ўспамянуць**, **напомніць** і **напамянуць**, **успамін** і **напамінак**. Яны самі прыходзяць, калі рука адчувае патрэбу, хораша кладуцца ў сказ нароўні са сваімі роднымі братамі: **згадка**, **прыгадка**, **згадаць**, **прыгадаць**, **нагадаць**. Яны — адной славянскай крыві, і не рэдакцыі вінаваты ў шырокім распаўсюджванні апошняй групы слоў, не рэдактары зрабілі іх фаварытамі. Гэта мова зрабіла, у першую чаргу вершаваная, прыняла на ўзбраенне мілагучныя, лёгкія для вымаўлення адменнікі.

Нельга не падтрымаць Вашы заўвагі наконт поплечнага ўжывання слоў **падняць** і **ўзняць**, **надвор'е** і **пагода**.

Словам, Вашы меркаванні наконт ужывання тых ці іншых слоў калі і выклікаюць, дык хіба што невялікія дадаткі і ўдакладненні. Дарэчы, большасць з непрыхільна сустрэтых Вамі слоў (нагода, выснова, згадка і інш.) зафіксаваны ўжо ў Беларуска-рускім і Тлумачальным слоўніках, і не без Вашай як рэдактара ўхвалы, напэўна.

У той жа час адмаўляцца ад наватвораў, якія каранямі выходзяць з нашай мовы і цалкам адпавядаюць яе духу, было б непапраўным тормазам яе росту. Няхай з дзесяці наватвораў прыжывецца адзін, і то хвала Богу! Вось пайшоў ва ўжытак народжаны ў нетрах Інстытута мовазнаўства **навучэнец** (**учащийся**) і канула ў невядомасць **недатыка** (**недотрога**), саступіўшы месца больш дакладнаму і мілагучнаму слову **незачэпа**. А надрукаваны абодва словы ў недалёкім суседстве і ў адным тым жа Руска-беларускім слоўніку.

Не можа не выклікаць павагі самакрытычнасць у адносінах да цяперашняга правапісу. Некалі Вы хораша занчылі: «Правапіс гэта ёсць дагавор пісьменных людзей, узаемнае абавязацельства трымацца пры пісьме ўстаноўленых правіл». Але ж цяпер у нас багата сапраўды пісьменных людзей, мовазнаўства стала развітой навукай, абапіраецца на шматлікія даследаванні і матэрыялы. А ці так было падчас рэформы 1933 года? Вучоныя-мовазнаўцы па вядомых прычынах пазнікалі, Інстытут мовазнаўства ўзначальвалі, проста скажам, малапісьменныя літаратары, кафедры мовы важылі гэтак жа мала. Вы з П. Глебкам толькі пачыналі, важнага слова сказаць не маглі, як не маглі даць належнай рады і цудоўныя знаўцы — моватворцы, практыкі, а не тэарэтыкі, Я. Купала і Я. Колас.

А як можна было рабіць змены ў правапісе без тэарэтычнага абгрунтавання, не маючы належнай падпоры ў выглядзе гістарычнай граматыкі, не памножыўшы назіранняў над мовай, не разгарнуўшы даследавання яе асаблівасцей, дыялектаў, тэндэнцый развіцця? Аднак рабілі і багата ўзаконілі такога, такую правялі рэформу, пра мэтазгоднасць якой даводзіцца спрачацца і сёння.

У 1957 годзе для змен правапісу таксама не хапала вопыту і належных падстаў, а галоўнае — было малавата спецыялістаў — мовазнаўцаў, а значыць; бракавала навуковага ведання мовы. Тым не менш, чарговая рэформа правапісу адбылася. Але ж законы дыктуе жыццё, іх прымаюць і ўдаскональваюць (або касуюць) зусім у залежнасці ад сапраўдных надзённых патрэб грамадства.

На жаль, у правапісе многа Пралікаў. І да некаторых Вашых прапаноў наконт таго, як яго палепшыць, я далучыў бы яшчэ і некаторыя свае, выказаныя, праўда, раней (у кнігах «Вачыма часу», «З ранку да вечара»).

Паразмаўляўшы ў ручве Вашых моўных разважанняў, зірнём на Вашы спосабы аргументацыі і выкрыцця тых «зламысных» асоб, якія «мову псуюць».

Наогул, напісанае з парушэннем правілаў арфаграфіі не павінна і блізка падпускацца да газеты і кнігі. Тым часам існуе няправільнае ўжыванне слоў і зваротаў, сустракаецца неўласцівы мове сінтаксіс. Існуе, і ў большай меры і больш уражальна, чым бачыцца з Вашага артыкула. Пошасць, літаральна пошасць пайшла, напрыклад, з ужываннем слова **пытанне**: «няма пытання» — усё лёгка вырашаецца; «ёсць два пытанні — нарыхтоўка дроў і сена», значыць, дзве справы, цяжкасці, дзе трэба думаць, дапамагаць. Нават так гавораць і пішуць: «Разглядалася пытанне па пытанню водазабеспячэння». Замест **пытанне** ў прыведзеных вышэй значэннях не менш назойліва ўжываюць **аспект** і **праблема**, укладаючы ў іх адценні нявырашанасці, цяжкасці выканання, неабходнасці, або проста, дзе трэба сказаць **справа**, лепяць: **пытанне**, **праблема**, **аспект**. Пішуць **утрыманне**, але не толькі ў сэнсе забеспячэння бацькоў або дзяцей, а і **ўтрыманне** жывёлы ў хляве, утрыманне вугляроду ў жалезе. А гэта нязграбна і ніяк не распаўсюджваецца на ўсе выпадкі, дзе руская мова абыходзіцца адным словам **содержание**.

Руская мова мае шмат скарочаных канчаткаў і вызваляецца ад іх. Пайшлі яны ад выпадку, калі адзін з вялікіх князёў, а ў прыдворным асяроддзі англійскую мову ведалі лепш за рускую, напісаў: «Послать одну роту кадет (ов)». Вось і пайшлі: взвод сапер, эскадрон драгун, улан, гусар, полк солдат, отряд партизан... Так вымаўляць лічылася найвялікшым шыкам, і не пазбеглі калецтва як вусная, так і літаратурная мова. Зараз можна стрэць: ящик помидор, кило апельсин, сто грамм, пара сапог. Але ў нашай мове нельга і не трэба пісаць **пяць пар бот** замест **ботаў, салдат** замест **салдатаў.** Гэта не адгароджванне ад уплыву, а перасцярога ад калецтва абедзвюх моў, пра што гавораць і ахоўнікі рускага слова. Пішуць: паехаў **за** цвікамі, хоць цвікі нікуды не едуць, а ляжаць на складзе, куды **па іх** паехалі. Пішуць: сабраўся **ў шлях, добрага шляху** (замест **дарогі**) — няўжо гэта Вам не рэжа вуха?

Шмат чаго пішуць! Але ніхто не збіраецца патрабаваць за падобныя прамашкі публічнага раскрыжавання ў духу 30-х гадоў. Вучоным-мовазнаўцам самы час і лепш за ўсё было б узяцца за павышэнне граматнасці і кваліфікацыі кніжнай і газетнай рэдактуры, загаварыць пра культуру мовы. А Вам чамусьці ўсюды бачацца зламыснасць. Ды з чыйго боку? Нейкіх невядомых рэдакцыйных праўшчыкаў, якіх, палічыўшы, і дзесятка не налічыш. Вось дык небяспека!..

Баронячы ад праўшчыкаў права пісьменніка на індывідуальную мову, Вы дазваляеце карыстацца гэтым правам «у разумных межах». Што гэта за крытэрый? Ці не занадта ён суб'ектыўны, накшталт вышэй успомненага «рэжа вуха»? Захінуўшыся заслонаю «разумных межаў», можна звесці пісьменніцкі слоўнік да дзвюх-трох сотняў слоў — маўляў, так лягчэй вывучыць мову, менш трэба запамінаць.

Нездарма ж Вы дзівіцеся, што знаходзіце «некаторыя асаблівасці... у творах тых пісьменнікаў з розных куткоў Беларусі, родным гаворкам якіх гэтыя асаблівасці неўласцівыя». Вось ужо і «межы», толькі як іх назваць? Выходзіць, што я, случак, не магу ўзяць слова або яго форму ў лагойшчынца Пташнікава ці ў аршанца Караткевіча, а яны ў мяне, случака? А як жа ў такім разе ствараецца літаратурная, «агульнапрынятая» нацыянальная мова? Пачуў ці прачытаў невядомае, або забытае, або ўпадабанае раптам слова, і следам за аўтарам яго ўжыў. А за табой — нехта другі, а за ім — трэці, а там і ўсе прынялі.

Без ваганняў я прыняў слова **калодзеж** і нават **студня**, забыўшыся на сваё, слуцкае **калодзез /с/ь,** хоць з яго бліжэй і паўней чуваць славянскае **кладозь.** За слова **разнасцежыць** мне дзякавалі празаікі і паэты, часам просячы прабачэння, што ўзялі яго ў свой слоўнік. Я быў толькі рады: слова пайшло як наватвор, а чуў я яго ад маці! Відаць, пры ўдалым уводзе слоў у абыходак не абмежаванні патрэбны, а заахвочванне.

Мова, Кандрат Кандратавіч, — гоман векавога бору, злітны і адзіны, аднак кожнае слова, як і кожнае дрэва, мае свой голас і пошум, колер і смак, свой выгляд і лад. Тут заўсёды цёпла і ўцешна, ёсць на што глянуць, што паслухаць, сюды заўсёды горнецца сэрца. А вось у гай тэлеграфных слупоў — усе абструганыя, усе чыста роўныя, усе на адзін капыл, — у такі гай, выстраены ў некаторых слоўніках, не цягне: з іх не пачуеш мовы жывой, трапяткой, гістарычна асэнсаванай.

Вось чаму Вашы пачынанні датычна выдання слоўнікаў трэба вітаць. Але вось з **нарматыўным** як? Ці не лепей усё ж пачакаць, хай лепей усталююцца нормы на навуковым грунце. Не ўсё тое, на чым пішуцца кнігі і брашуры, можа называцца мовай, дый яшчэ літаратурнай, і яшчэ замацоўвацца ў якасці нормаў — даруйце, паўтарыў самога сябе. А то ў Тлумачальны слоўнік, абвешчаны таксама нарматыўным, наўшывалася багата прыкладаў з таго, што ніколі не было літаратурай і можа ілюстраваць хіба няўмельства аўтара абыходзіцца са словам або няўмельства складальніка слоўніка выбраць з твора трапна ўжытае, ва ўсім гучанні і красе роднае слова. А то ж вушы вянуць!

Замест прыкладаў, якія павінны, як нязгасныя ўзоры, запомніцца на ўсё жыццё, прыведзены сказы з трасянкі няўмек, у каго беларуская сянінка сустракаецца праз дзве бадыліны, дый то не да месца.

Дык вось і страшна: здаецца нарматыўны слоўнік у друк, гадкі праз два выйдзе, і тады выдаўцы з рэдактарамі заціснуць у ляшчоткі «індывідуальную» мову пісьменніка, не зважаючы на «разумныя межы». Вы, праўда, дазваляеце ўжываць словы, пашырэнне якіх Вам не да густу, але што думаюць і робяць Вашы памочнікі, тыя, хто складае слоўнік? Пасля Вашага артыкула «Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства», надрукаванага, нагадаю, 29 сакавіка 1972 г. у газеце «Звязда», многія выданні зусім выкаранілі «пра» і канчаткова адмовіліся ад меснага склону пасля прыназоўніка «па».

Наша мова называецца беларускай не толькі таму, што належыць беларусам, — у яе свой адметны граматычны склад, сваё вымаўленне з непаўторнымі асаблівасцямі (дз, дж, ньня, льл), свае спосабы будаваць сказы, нарэшце — вялікі элеватар лексікі, не заўсёды адвеянай, праўда, але здольнай даваць расткі.

Не дзіўна, што мы любім сваю мову, мову вялікіх папярэднікаў і вялікіх сучаснікаў. І павінны дбаць аб яе захоўванні для сяўбы, аб яе чысціні, ёмкасці, гучнасці, каб яна, растучы і развіваючыся, не траціла самабытнасці, а праз гэта паўней выяўляла нацыянальныя скарбы і характары для агульнанацыянальнай культуры.

Якуб Колас заклікаў «смялей ствараць новыя словы і ў патрэбных выпадках звяртацца да запазычанняў». Аднак папярэджваў :» Перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі». Гэтак народны паэт падкрэсліваў, што, убіраючы ручаіны дыялектаў, шліфуючы літаратурнае пісьмо і вымаўленне, узбагачаючыся за кошт неабходных запазычанняў з братніх моў, наша мова павінна заставацца беларускай.

Заўважу, дарэчы, што ў сваім артыкуле «Грамадская неабходнасць...» Вы пішаце: беларуская мова развівалася ў нетрах праславянскай і агульнаславянскай мовы. Што гэта, мякка кажучы, не так, Вы можаце пераканацца, пазнаёміўшыся з кнігай «Происхождение русского, украинского и белорусского языков» дырэктара Інстытута рускай мовы АН СССР, члена-карэспандэнта АН Ф. П. Філіна (М., 1972). Вядомы мовазнаўца яскрава паказвае, што азначае спроба выводзіць украінскую мову з мовы праславянскай. Падобнае ён мог бы сказаць і ў дачыненні да мовы беларускай.

Па-Вашаму, «беларускасць» беларускай мовы нешта іншае, з падтэкстам на штучнае замыканне ў сабе. Наколькі Вы давялі свой тэзіс прыкладамі, гаварылася вышэй. Мяркую, што ўсе мы аднолькава думаем і дбаем пра Радзіму і мову яе. І няма ў мове двухбаковага руху, а толькі адзін: рух да найбольш поўнага развіцця, адпаведна развіццю нашай нацыі.

1979 г.

**Максім ЛУЖАНІН.**

# ЦІ СПАРАДКУЕМ СВАЮ ХАТУ?

**— Мяркую, Аляксандр Амвросьевіч, што чытач «Звязды» з цікавасцю і карысцю для сябе пазнаёміцца з лістом-артыкулам, які столькі гадоў праляжаў у вашай шуфлядзе. Скажыце, а чаму ён не быў надрукаваны своечасова, у семдзесят дзевятым годзе?**

— Чаму? Можаце здагадацца самі. Я прапанаваў ліст часопісу «Полымя». Пачыталі, параіліся «наверсе» (тагачасны рэдактар часопіса вельмі любіў «раіцца», «узгадняць» матэрыялы ў ЦК КПБ) і вырашылі... не друкаваць.

**— Зразумела. Рэформа правапісу 33-га года, пра якую вы нагадваеце ў лісце Кандрату Крапіве і якую гісторык Л. Лыч назваў «уступкай русіфікацыі», і адпаведны дэкрэт СНК БССР ад 23 жніўня 1933 года яшчэ былі тады па-за крытыкай, адпавядалі партыйнай нацыянальнай палітыцы, няўхільна дзейнічала ідэалагічная ўстаноўка на збліжэнне моў (дакладней, на асіміляцыю адной з іх). Таму ваша спроба падыскутаваць на тэму правапісу, хай нават у творча-практычным плане, была ўспрынята адмоўна.**

— Хаця сёе-тое мной было выказана і напісана яшчэ раней, на пачатку 70-х гадоў.

**— Мне тут успамінаюцца вашы нататкі «Магчымасці мовы», якія ўвайшлі потым у зборнік «З ранку да вечара» і дзе вы ставіце пытанне аб тых адмоўных наступствах, якія мелі для нашай мовы ўведзеныя рэформай «навацыі», у прыватнасці ліквідацыя знака памякчэння ў словах з падвойнымі зычнымі, не ўсюды апраўданае ўжыванне апострафа і г. д.**

— Гэтыя свае «Нататкі на палях» я пачаў пісаць, здаецца, у семдзесят другім годзе, а скончыў пазней, у семдзесят шостым. Не мог не сказаць тое, пра што вы нагадалі. Каму, як не пісьменніку, перш за ўсё клапаціцца пра стан і далейшае развіццё роднай мовы, дзяліцца назіраннямі за працэсамі ў ёй, быць абаронцай яе?

**— Але на поўны голас вы змаглі сказаць і сказалі — гонар вам! — пра свой пісьменніцкі і грамадзянскі боль за родную мову ўжо ў нашы дні. Я маю на ўвазе ваш па-гаспадарску заклапочаны, багата насычаны фактамі і спасылкамі нарыс «Неспарадкаваная хата», які надрукаваны не так даўно на старонках часопіса «Маладосць». Тут вы паставілі, як кажуць, шмат кропак над «і». У тым ліку адносна рэформы 1933 года. «Рэфарматары», — пішаце вы і бераце гэта слова ў двукоссе, — пастараліся як мага цяжэй параніць мову, пазбавіць яе найбольш характэрных нацыянальных асаблівасцей: апусцілі мяккі знак перад мяккімі складамі (сьнег — снег), у падваеннях (каханьне — каханне), што Карскі лічыў самай выразнай адзнакай самабытнасці мовы. Далей, недарэчна абмежавалі ўжыванне «э» (газета), падкалечылі аканне і дзеканне, не знайшлі знакаў для дыфтонгаў дз і дж, і цяпер іх вымаўляюць за два асобныя гукі». Вы робіце выснову, што іншага і не маглі зрабіць непісьменныя дзеячы, людзі, чужыя нацыянальнай культуры.**

— Прозвішчы некаторых я называю. Мог бы назваць і больш...

**— Несумненна. І гэта тым больш сумна, што і сёння жывуць тыя курылкі, жывуць іх духоўныя нашчадкі. І не толькі жывуць, а дзейнічаюць, актыўна, не на жыццё, а на смерць змагаюцца з беларускай мовай, адмаўляюць ёй у праве быць сапраўды дзяржаўнай. Вунь нядаўна святкавалі гадавіну сумна вядомага рэферэндуму (знайшлі свята!)...**

— Сапраўды, знайшлі што святкаваць. З'явілася была надзея, і вось зноў бацькі выбіраюць мову навучання, скарачаюцца беларускамоўныя класы. Нават дзеці-школьнікі і тыя разумеюць (ці інтуітыўна адчуваюць), што адбываецца нешта ненармальнае. Мае знаёмыя нядаўна расказалі мне пра такую сцэнку, што адбылася ў класе. Настаўніца пытаецца з пафасам: «А што б мы рабілі, каб не было рускай мовы?» — Дзіця паднімае руку: «А мы гаварылі б па-беларуску».

**— Якраз той выпадак, калі вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна... Дык што, Аляксандр Амвросьевіч, пры такіх адносінах да нашай мовы і культуры, пры заняпадзе іх мы не зможам спарадкаваць сваю беларускую хату?**

— Ведама не. Бо, як пісаў ужо, мова — гэта скарб над усімі скарбамі, гэта жывое адлюстраванне векавых набыткаў працы і культуры народа, гістарычнага вопыту нацыі. Што, дарэчы, добра ўсведамляюць пісьменнікі Расіі і таму гарой стаяць за сваю мову, сваю гістарычную сімволіку, сваю нацыянальную адметнасць.

**— Я вось, ведаеце, падумаў, што своеасаблівым адстойваннем роднай мовы, сцвярджэннем яе паўнапраўнага грамадзянскага статусу з'яўляюцца вашы запамінальныя, вобразныя вызначэнні мовы. У лісце Кандрату Крапіве вы параўноўваеце мову з «гоманам векавога бору». У «Неспарадкаванай хаце» пішаце: «Мова не можа заставацца без догляду, пра яе трэба клопат штодня. Мова — гэта хлеб, добра спечаны, не ў гарачай і не ў халоднай печы, абскрэбаны спадыпаду ад лісця ці мукі. Ахаладжаны пад абрусам... Не менш турботы прыкладае народ, каб выхадзілася і падышло слова. Столькі, калі не больш, выпрабаванняў праходзіць слова, пакуль у мове знойдзе пэўнае і сталае месца: каб і важыла многа, і гучала ёмка, і выглядала хораша». Падабаюцца яшчэ радкі аднаго з вашых новых вершаў, які называецца «Слова»:**

***Само сеялася на полі,***
***Налівалася з каласамі,***
***Не ўчарнілі яго куколі,***
***Бліскавіцы не пакрамсалі...***
***Падхапілі людзі самі***
***І засыпалі зерне ў памяць...***

— Так, напісаліся такія радкі. Верш быў надрукаваны ўвесну 94-га года ў «Народнай газеце». А побач з ім быў змешчаны другі. Вельмі сугучны з вашай рубрыкай, верш — зварот да народа. Пачакайце... (Дзядзька Лужанін устае, шукае і хутка знаходзіць патрэбную газетную выразку.) Вось ён:

*Народ! Ці ёсць яшчэ народ,*
*Чыя душа — на ране рана,*
*Каго з дня ў дзень і з году ў год*
*Паілі крыўдай і падманам...*
*Народ! Калі ты ёсць народ,*
*На крок твой азірнуцца людзі,*
*Ператварай жа крок на ўзлёт,*
*А то народам век не будзеш!..*

**— Дзякуй, Аляксандр Амвросьевіч, за падтрымку рубрыкі, за гутарку, за шматгадовае і нястомнае служэнне роднаму слову.**

**Гутарыў Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

*НАЎЗДАГОН*

# МІНЮСТ ЗНОЎ ПАПЯРЭДЖВАЕ

**4 чэрвеня Міністэрства юстыцыі вынесла пісьмовае папярэджанне Беларускаму народнаму фронту «Адраджэнне». Пракаменціраваць гэты факт наш карэспандэнт папрасіў начальніка ўпраўлення Мінюста па справах грамадскіх арганізацый Міхаіла СУХІНІНА.**

**— Як вядома, пасля нашумелых падзей 26 красавіка Мінюст ужо выносіў пісьмовае папярэджанне грамадскаму руху «Беларускі народны фронт», а на пачатку мая аналагічная мера была прынята ў адносінах да партыі БНФ. Хто атрымаў папярэджанне на гэты раз — рух альбо партыя?**

— На гэты раз афіцыйнае папярэджэнне атрымала грамадскае аб'яднанне «Беларускі народны фронт».

**— Якія матывы вынесенага папярэджання?**

— Апошнія падзеі на вуліцах сталіцы можна недвухсэнсоўна расцэньваць як спробы ўмяшання ў дзейнасць работнікаў пракуратуры, што з'яўляецца грубым парушэннем прадстаўнікамі БНФ (якія арганізавалі і ўдзельнічалі ў майскіх масавых акцыях у Мінску) законаў Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх аб'яднаннях» і «Аб пракуратуры».

**— Але афіцыйна да памянёных падзей БНФ дачынення не мае. На падставе чаго зроблена выснова аб удзеле яго прадстаўнікоў?**

— Факты актыўнага ўдзелу прадстаўнікоў і прыхільнікаў грамадскага аб'яднання БНФ у майскіх масавых акцыях засведчыла пракуратура.

**— Што чакае рух «Беларускі народны фронт» далей?**

— Калі партыя альбо грамадскае аб'яднанне на працягу года двойчы парушае закон, Мінюст мае права перадаць дакумент у Вярхоўны суд аб ліквідацыі гэтай партыі ці аб'яднання. Альбо, палічыўшы магчымым, Міністэрства можа проста вынесці другое афіцыйнае папярэджанне, што мы і зрабілі зараз. Гэта, калі хочаце, як у сітуацыі са звальненнем чалавека: за паўторнае парушэнне яго можа звольніць адразу, а можна зноў абмежавацца папярэджаннем.

Дарэчы, цяпер супрацоўнікамі міністэрства таксама праводзіцца праверка дзейнасці партыі БНФ.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ДЗЯКУЮЧЫ ПАДТРЫМЦЫ НЯМЕЦКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Гэты і падобныя да яго галасы нельга не пачуць. Па 2 мільёны рублёў будуць уручаны Валянціне Сяргееўне Шыла, Тэрэзе Іванаўне Сліжык з Валожына, Таццяне Андрэеўне Абрамчук з вёскі Сасноўка Лунінецкага раёна (маці траіх дзяцей), Вользе Васільеўне Міхалькевіч з вёскі Саланое Жлобінскага раёна — маці пяцярых дзяцей (муж памёр пяць гадоў назад).

Госці з Саксоніі заўважылі, што ў сваю чаргу яны гатовы ініцыіраваць грамадскі рух у падтрымку ахвяр Чарнобыля сярод сваіх чытачоў. І гэта вельмі важна. Тыраж нямецкага выдання — 370 тысяч асобнікаў. Для Германіі гэта даволі значная лічба.

Нямецкія газетчыкі заўважылі, што іх мяркуемы ўдзел у акцыі «Выратаванне» набудзе свой размах з пачаткам кастрычніка. Ёсць пэўныя назіранні, што якраз з кастрычніка па студзень радавыя грамадзяне найболей актыўна ахвяруюць, праяўляюць дабрачыннасць. Нам жа нічога не застаецца, як працаваць круглы год, высвятляючы ўсё новыя і новыя адрасы, дзе неабходна падтрымка. Упэўнены, што і БДФ «Дзецям Чарнобыля» не абмяжуецца толькі часам летняга аздараўлення.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 6-7 ЧЭРВЕНЯ

У бліжэйшыя двое сутак надвор'е вызначыцца полем павышанага атмасфернага ціску. Утрыманне кіслароду ў паветры будзе вагацца ў межах сярэдніх шматгадовых даных. У такіх умовах паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый у большасці метэазалежных хворых малаверагоднае.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 20—22, Мінску і Гомелі — 21—23, Гродне — 22—24, Брэсце — 23—25 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература ўначы — 7—12, удзень — 21—26; 8-га па паўночнаму ўсходу — на 2—3 градусы ніжэй.

*ТРЫБУНА ДЭПУТАТА*

# РЫХТУЮЦЦА ЗМЕНЫ Ў ЗАКОНЕ АБ СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

***У бліжэйшы час на разгляд парламента будуць вынесены законапраекты «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» і «Аб тэлебачанні і радыёвяшчанні ў Рэспубліцы Беларусь». Першы законапраект будзе разгледжаны Вярхоўным Саветам ужо ў пачатку чэрвеня, другі у другой палове гэтага месяца.***

***Карэспандэнт «Звязды» папрасіў расказаць аб рыхтуемых змяненнях і аргументаваць іх неабходнасць старшыню падкамісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сродках масавай інфармацыі Аляксандра ДАБРАВОЛЬСКАГА.***

**— Аляксандр Альгердавіч, Закон аб СМІ быў прыняты не так даўно, чаму з'явілася неабходнасць унесці ў яго змяненні?**

— Справа ў тым, што Закон аб друку, які быў прыняты ў 1995 годзе, у значнай частцы быў проста перапісаны з вядомага агульнасаюзнага закона. Жыццё паказала, што ёсць шмат праблем, якія замінаюць журналістам і грамадзянам нармальна працаваць у адпаведнасці з гэтым законам. Мы паспрабавалі ўнесці такія змены, якія б дазволілі зняць праблемы, што ўзнікаюць у сувязі з гэтым. Акрамя таго, былі заўвагі экспертаў Савета Еўропы адносна адпаведнасці нашага Закона аб друку еўрапейскім стандартам. У сувязі з жаданнем Беларусі ўступіць у гэту арганізацыю мы паспрабавалі ўлічыць іх прапановы. Акрамя таго, мы вывучылі адпаведную судовую практыку і ўбачылі, што ёсць шмат праблем, якія ўзнікаюць з-за недакладнасці прававога рэгулявання праблем адказнасці сродкаў масавай інфармацыі. Напрыклад, для журналістаў вельмі важна, што яны не павінны несці адказнасць за тыя звесткі, якія яны ўзялі з прыгавораў судоў. А судовая практыка сведчыць, што рашэнні судоў могуць пазней адмяняцца вышэйстаячымі інстанцыямі і журналіст нясе адказнасць за папярэдне прыведзеныя звесткі. Ці журналіст можа атрымаць іск аб абароне гонару і годнасці праз 1015 гадоў пасля публікацыі, што таксама неразумна. Трэба ўстанавіць тэрмін даўнасці, пасля якога ўжо не прымаюцца такія заявы. Мы мяркуем, што для грамадзяніна дастаткова аднаго года, каб падаць адпаведны іск, калі ён адчувае сябе неправамерна пакрыўджаным. Натуральна, што, калі ён не паспеў зрабіць гэта па ўважлівых прычынах, то тэрмін даўнасці можа быць працягнуты ў адпаведнасці з заканадаўствам. Таксама ёсць пытанні, якія мы не ўрэгулявалі гэтым законам, бо яны павінны быць прадугледжаны іншымі, напрыклад, Адміністрацыйным кодэксам адказнасць службовых асоб за непрадастаўленне інфармацыі, напрыклад. Мы будзем старацца адпаведныя змяненні ўнесці і ў гэтыя заканадаўчыя акты. Акрамя таго, у Закон аб дзяржаўнай пошліне мы, напэўна, унясём палажэнне, што іскі да сродкаў масавай інфармацыі, якія перавышаюць пэўную суму, павінны разглядацца, каліісцец унясе пэўны працэнт ад гэтай сумы. Бо цяпер у судах разглядаюцца іскі да СМІ часам на астранамічныя сумы.

Мы паспрабавалі прааналізаваць сітуацыю з некалькіх пунктаў гледжання. Першае, як будуць гарантаваны правы грамадзян, спажыўцоў на атрыманне праўдзівай, аб'ектыўнай, непрадузятай інфармацыі. Другое, як будуць гарантаваны правы журналіста. Трэцяе, як наогул будуць абаронены інтарэсы грамадства ў цэлым. І тое, што ў прынятым раней законе дрэнна працуе, трэба карэкціраваць.

**— Ці ёсць якія канцэптуальныя прапановы па зменах у названым законе?**

— Мы ўключаем прапанову аб тым, каб дабавіць у гэты закон раздзел аб асвятленні работы органаў дзяржаўнай улады ў сродках масавай інфармацыі. Гэта, відавочна, патрэбна, бо зараз без адпаведнага рэгулявання стала бачна магчымасць «расцягваць» сродкі масавай інфармацыі розным галінам улады, і гэта не на карысць усяму грамадству і самой дзяржаве. Таму мы рэгламентуем зараз, якія падзеі і як асвятляюцца дзяржаўнымі СМІ, які парадак выступленняў дзяржаўных асоб у гэтых СМІ. Пры гэтым пы пазбягаем умяшання ў творчую дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі, пазбягаем, безумоўна, цэнзуры, але вызначаем парадак, пры якім органы дзяржаўнай улады будуць мець гарантаваную магчымасць асвятляць сваю дзейнасць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі.

**— Сярод папрокаў у адрас беларускага Закона аб друку з боку экспертаў Савета Еўропы былі выказванні аб манапольным кіраванні ўрада друкарнямі і сеткай распаўсюджвання. Ці прадугледжваюць змены ў закон нейкую карэкціроўку ў гэтай сферы?**

— Справа ў тым, што пытанне манапалізму — гэта прадмет рэгулявання іншага закона аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці, і мы не можам зараз уключаць у Закон аб друку тэрміны «манапалізацыя» ці «канцэнтрацыя» СМІ. Зараз мы ведаем, што і ў антыманапольны закон будуць уносіцца змены і мы будзем спрабаваць каб тое, што датычыцца сродкаў масавай інфармацыі, таксама было ў ім ўлічана.

**— Тым не менш, ці ёсць у вашых прапановах хоць нейкая абарона журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі ад самавольства чыноўнікаў рознага рангу, якія могуць забараніць распаўсюджванне ці друкаванне нейкага выдання, ці проста разарваць дагавор на гэта, як гэта ўжо было ў нас?**

— Мы ўключаем у паняцце «цэнзура» акрамя ўмяшання ў творчую дзейнасць таксама забарону на друкаванне, распаўсюджванне і да т. п. рэчы, якія фактычна з'яўляюцца цэнзурай, не даюць магчымасці давесці гэты сродак масавай інфармацыі да чытачоў. Мы таксама ўносім прапановы аб адказнасці службовых асоб за неабгрунтаваную адмову ці адтэрміноўку ў прадастаўленні інфармацыі. У цэлым мы паспрабавалі больш грунтоўна забяспечыць правы журналістаў. Наколькі нам гэта ўдалося? Я на гэта сказаў бы, што ў нас было значна больш ідэй у гэтым плане. Але, на жаль, рэальнасць такая, што не ўсё можна зараз прапанаваць. Акрамя таго, зараз ідзе работа над іншымі законапраектамі, у прыватнасці аб тэлебачанні і радыёвяшчанні.

**— Давайце якраз звернемся да гэтага законапраекта. Такога ў нас яшчэ не было. Якія прынцыпы пакладзены ў яго аснову і ці ўнясуць яны нейкія змены ў наша тэлебачанне?**

— Я думаю, што галоўныя змены нашаму тэлебачанню дасць не прыняцце гэтага закона, хаця гэта вельмі важна, а разуменне ўлады, што нельга манапалізаваць электронныя сродкі масавай інфармацыі, што нельга такім чынам будаваць інфармацыйную палітыку. Тым не менш, закон усё ж зменшыць магчымасці тых, хто хоча манапалізаваць электронныя СМІ, і асабліва тэлебачанне. Мы пайшлі тым шляхам, па якім ідуць многія цывілізаваныя краіны, у тым ліку Расія і Украіна, нашы суседзі. Трэба стварыць Нацыянальны савет па тэлебачанню і радыёвяшчанню, як пазаведамасны дзяржаўны орган, які б не падпарадкоўваўся ні Прэзідэнту, ні Вярхоўнаму Савету, ніякаму іншаму дзяржаўнаму органу і фарміраваўся б па прапановах Прэзідэнта і парламента з прафесіянальна падрыхтаваных людзей. Нацыянальны савет па тэлебачанню і радыёвяшчанню павінен кантраляваць выкананне закона ў гэтай галіне, а таксама спрыяць развіццю радыё і тэлебачання. Мы думаем, што гэта можа змяніць сітуацыю карэнным чынам. І з намі згодны большасць спецыялістаў, якія давалі свае заключэнні. Таму што зараз грамадзяніну ці арганізацыі для таго, каб заснаваць радыёстанцыю ці тэлекампанію, трэба столькі прайсці па дзяржаўных калідорах, патраціць шмат часу і грошай. На самай справе гэта могуць сабе дазволіць толькі тыя, хто мае нейкае дачыненне да прадстаўнікоў улады. Гэта нас вельмі турбуе. А Нацыянальны савет па тэлебачанню і радыёвяшчанню будзе адзіным органам, які будзе вырашаць пытанне аб заснаванні новых кампаній у галіне электронных СМІ, а ўсе астатнія ўзгадненні будуць рабіцца паміж дзяржаўнымі ведамствамі. Мы ўстанаўліваем працэдуру рэгістрацыі, выключныя ўмовы, пры якіх можа быць адмоўлена ў выдачы ліцэнзій, таму думаем, што вось такая незалежная пазіцыя Нацыянальнага савета дасць магчымасць нармальна развівацца тэлебачанню і радыёвяшчанню. Дарэчы, з гэтым пагадзіўся на пасяджэнні нашай падкамісіі і намеснік міністра сувязі сп. Будай.

Акрамя гэтага вельмі грунтоўна будуць апісаны правы і абавязкі тэлерадыёарганізацый і журналістаў, слухачоў, гледачоў... На жаль, мы не змаглі вывучыць судовую практыку па гэтым пытанні, як у адносінах да Закона аб друку. Не было такога закона аб тэлебачанні і радыё — не было і адпаведнай практыкі. Але гэта не азначае, што ніхто не хоча адстаяць свае гонар і годнасць пасля пэўных перадач, проста гэта ўсё не было ўрэгулявана правам, таму і не дзейнічала. У гэтай галіне мы вывучылі практыку Расіі і Украіны, таму і ў гэтым плане мы таксама падрыхтавалі якасны законапраект, гатовы для таго, каб яго прыняць у першым чытанні.

**— Ці шмат паступіла прапаноў ад дэпутатаў і зацікаўленых арганізацый?**

— Так, шмат. І многае мы ўжо ўлічылі. Паправак было сапраўды вельмі многа. Галоўнае тут, што іх уносілі якраз тыя людзі, якія працавалі ў сферы СМІ, юрысты, журналісты, выкладчыкі — людзі аўтарытэтныя ў галіне сродкаў масавай інфармацыі. Мы ім вельмі ўдзячныя. Гэта дазволіла зрабіць законапраекты значна больш якаснымі.

**— Як вы лічыце, ці з'явіцца нарэшце пасля прыняцця вашага закона на тэлебачанні перадача «Парламенцкая гадзіна»?**

— Гэтая праблема якраз улічваецца ў раздзеле аб асвятленні работы органаў дзяржаўнай улады ў Законе аб друку. Папраўкі ў Закон аб друку прымаюцца ў адным чытанні і таму мы спадзяёмся, што законная магчымасць і нават абавязак рабіць гэта на нашым тэлебачанні з'явіцца ўжо ў бліжэйшы час, у пачатку чэрвеня.

**Гутарыў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЧАЧНЯ, 16 ЧЭРВЕНЯ: ВЫБАРЫ АБО ВАЙНА?

У Назрані працягваюцца перамовы па мірнаму ўрэгуляванню ў Чачні паміж дэлегацыямі Расіі і Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя. Міністр інфармацыі Рэспублікі Ічкерыя Удугаў заявіў, што дэлегацыя Ічкерыі мае намер абмеркаваць з расійскім бокам шэраг прапаноў, якія могуць палажыць канец вайне. Чачэнскі бок прапаноўвае вывесці войскі з тэрыторыі рэспублікі да 1 ліпеня. Праз два месяцы пасля гэтага прапануецца правесці ў рэспубліцы выбары, якія спачатку прызначаліся на 16 чэрвеня. Адзін з членаў чачэнскай дэлегацыі падкрэсліў, што калі выбары 16 чэрвеня не будуць адкладзены, у Чачні пачнецца сапраўдная поўнамаштабная вайна. Акрамя гэтага дэлегацыя Ічкерыі патрабуе зняць да пятніцы ўсе блок-пасты вакол населеных пунктаў.

### ЖЫРЫНОЎСКІ ПАТРАБУЕ ВЯРТАННЯ РАСІІ АДВЕЧНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ

Дзяржаўная дума Расіі прагаласавала ўчора супраць прапановы Уладзіміра Жырыноўскага прад'явіць тэрытарыяльныя прэтэнзіі Украіне і Казахстану. Лідэр ЛДПР прапаноўваў, каб дума звярнулася да ўрадаў гэтых дзвюх рэспублік з патрабаваннем правесці рэферэндум па пытанню пра вяртанне Расіі яе адвечных тэрыторый. Прапанова Жырыноўскага была адхілена нязначнай большасцю ў 36 галасоў.

### ІНДЫЯ МОЖА СТАЦЬ ЯДЗЕРНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

Індыя пакідае за сабой права на стварэнне ядзернай зброі, пакуль не будзе дасягнута і рэалізавана пагадненне аб глабальным ядзерным раззбраенні. З гэтай заявай учора выступіў новы ўрад Індыі. Былы індыйскі ўрад адмовіўся падпісаць дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Першае ядзернае выпрабаванне Індыя правяла ў 1974 годзе, але ўлады сцвярджаюць, што ядзерная зброя так і не была створана. Заходнія спецыялісты лічаць, што і Індыя, і Пакістан могуць стаць уладальнікамі такой зброі ў сціслыя тэрміны.

### САМАЯ ВЫСОКАЯ ЗВАЛКА СВЕТУ

Група непальскіх альпіністаў сабрала 2 тоны смецця на найвышэйшай вяршыні свету гары Эверэст. Па іх словах, на Эверэсце яшчэ засталося як мінімум 15 тон усялякіх адходаў. На працягу трох тыдняў, пакуль працягвалася аперацыя, альпіністы знайшлі вялікую колькасць пустых газавых балонаў, кансервавых бляшанак, канатаў і іншых рэчаў. Было знойдзена таксама цела невядомага альпініста. Першая экспедыцыя на Эверэст была арганізавана ў 1952 годзе.

### ПРЭМ'ЕР-КАМАНДАС ПА МЯНУШЦЫ «БІ-БІ»

Новага ізраільскага прэм'ера Біньяміна Нетаніягу і генерал-маёра Гома, які ўступіў 2 чэрвеня на пасаду начальніка замежнай веткі «Масад», звязвае прыналежнасць да аднаго з найбольш таямнічых аддзелаў камандас. Абодва яны служылі ў адборным дэсантна-дыверсійным падраздзяленні ізраільскай арміі і бралі ўдзел у штурме бельгійскага авіялайнера, захопленага тэрарыстамі ў тэль-авіўскім аэрапорце ў 1972 годзе. Менавіта ў гэтым спецпадраздзяленні Нетаніягу атрымаў мянушку «Бі-бі», якая захавалася за ім дагэтуль.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў**
**Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Многія масквічкі, самі таго не падазраваючы, ходзяць у вячэрніх сукенках Раісы Гарбачовай, якія былі пашыты спецыяльна для паездак за мяжу. Былая першая лэдзі паскардзілася журналістцы на тое, колькі турбот прыносілі ёй прыёмы на вышэйшым узроўні. Адна Нэнсі Рэйган «дастала» Гарбачову сваімі запіскамі, які туалет неабходна мець для чарговага прыёму ў Белым доме. У рэшце рэшт у Раісы Максімаўны скапіўся вялікі гардэроб амаль няношаных і непатрэбных ёй дарагіх вячэрніх сукенак. Каб не прападаць дабру, яна праз пасрэднікаў стала адпраўляць іх у камісійныя магазіны Масквы.

**ІТАР-ТАСС**

*Адно крыло ў адной з лонданскіх турмаў пустуе. Камеры вызвалены, але зарэзерваваны — для хуліганаў і футбольных балельшчыкаў, якія парушаць парадак на чэмпіянаце Еўропы па футболу. Любому затрыманаму футбольнаму фанату прыйдзецца правесці за кратамі гэтай турмы да 19 гадзін. Паліцыя лічыць, што своечасовая інфармацыя аб гэтым астудзіць страсці.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Аса ўчыніла аўтамабільную аварыю на вуліцы Братоў Кашырыных у Чэлябінску. Заляцеўшы ў акно «УАЗіка», насякомае ўкусіла вадзіцеля. Той не справіўся з кіраваннем, і аўтамабіль сутыкнуўся з грузавіком. Вадзіцель «УАЗа» і яго пасажыры шпіталізаваны.

**ЕАН.**

